PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (2077) ГОД XLI БЕЛАСТОК 3 САКАВІКА 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)



*Рэдактар Георгій Валкавыцкі (справа) і Станіслаў Вагурка (Дзядзька Лявонь).*



*З'езд карэспандэнтаў "Нівы" — шасцідзесятыя гады.*

## Яны стваралі „Ніву”



*Марыя Федарук — трыццаць пяць гадоў за клавіятурай.*



*Памятны здымак рэдакцыйнага калектыву ў 1986 годзе. Сядзяць (злева): Міра Лукша, Георгій Валкавыцкі і Яніна Чэрнякевіч. Стаяць (злева): Вера Валкавыцкая, Віктар Рудчык, Валянціна Жэшка, Ада Чачуга, Мікола Гайдук, Міхась Хмялеўскі, Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук і Сакрат Яновіч.*



*Міхась Красоўскі (Дзядзька Квас).*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Jestem Ukraińcem ze Związku Ukraińców Podlasia. Mam taki zarzut do „Gazety", że zawsze nas przedstawia jako prawosławnych, a my nie jestesmy tylko prawosławni. Jesteśmy też katolikami i grekokatolikami. Widać to np. przy okazji konfliktu supraskiego,* — абураўся ўкраінскі дзеяч на старонках штодзёнкі

*Gazeta w Białymstoku, nr 32*

***

*Калі Беларусь не знікла пасля двухсот год расійскай акупацыі і польскай экспансіі, значыць нашай краіне Богам наканавана быць незалежнай. Пытанне толькі пра тое, якую цану нам яшчэ давядзецца за гэта заплаціць.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 5*

***

*Указам прэзідэнта Лукашэнкі палкоўнік расійскай службы бяспекі Леанід Ерын прызначаны першым намеснікам старшыні КДБ. Леанід Ерын гэта звычайны кадравы чэкіст, высокапрафесійны. Усё гэта адбываецца, так як бы начальніка брэсцкай міліцыі прызначалі начальнікам міліцыі віцебскай. Адчуванне такое, што беларускі КДБ з'яўляецца філіяй Лубянкі і, натуральна, працуе перш за ўсё ў інтарэсах Масквы. Як тады будзе дзейнічаць беларускі КДБ, які абавязаны бараніць Канстытуцыю і незалежнасць Беларусі?*

*Свабода, н-р 7*

Нейкі жарт з гэтай незалежнасцю.

***

*Władza w Polsce podjęła próbę złamania fundamentalnej zasady wolności prasy, jaką jest ochrona źródeł informacji, chcąc uczynić z dziennikarzy donosicieli i kapusiów. Ostateczny cel tych wysiłków wyjaśnił Jerzy Jaskiernia mówiąc, że „w Polsce jest za dużo gazet, na rynku powinny pozostać dwie, trzy duże, poważne". Jak na Białorusi.*

*Wprost, nr 6*

***

*Jest próba kneblowania prasy. Wyrok skazujący mnie na karę więzienia i zakaz wykonywania zawodu za ujawnienie tajemnicy państwowej na podstawie martwej litery prawa godzi niemal w każdą redakcję, swobodną wypowiedź wszystkich dziennikarzy. Stanowi groźny sygnał zapowiadający rozprawę z mediami. Jak wiem, przygotowane są kolejne rozprawy przeciw dziennikarzom. Niewygodne tytuły ujawniające informacje objęte klauzulą poufności mogą znaleźć się na ławie oskarżonych. Tymczasem owe tajne informacje fruwają po ulicach bardziej niż liście z drzew jesienią,* — сказаў Ежы Урбан.

*Kurier Poranny, nr 34*

Адкуль бярэцца столькі энтузіястаў цэнзуры? Калі нават Урбан занепакоены, значыць, канчаецца эпоха свабоды слова ў Польшчы. Перад вайной такі перыяд трываў таксама толькі шэсць гадоў. Хто ж мог падумаць, што свабода слова можа так дакучаць палякам.

***

*Od kilku lat obserwujemy bezkrytyczną apologię zbrojnego podziemia. Apologię tę odbiera się szczególnie dwuznacznie we wschodniej Białostocczyźnie. Jako przeciwnik przemocy boleję nad śmiercią milicjantów, którzy, bywało, pilnowali tylko porządku. Ale oni dokonali wyboru. Wiedzieli, że „służba reżimowi" oznacza postawienie się po przeciwnej stronie barykady, wraz ze wszelkimi możliwymi w ówczesnych warunkach konsekwencjami. Ale co zawinili ludzie z Zaleszan, Wólki Wygonowskiej, Szpak, Zań, Malesz, Końcowizny? Co zawinili furmani, którzy nie wrócili do domów, ponieważ „żołnierze" uznali za słuszne uśmiercić ich koło wsi Puchały Stare?*

*Czasopis, nr 2*

***

*Jeżeli Polska chce być wolna, niech będzie wolna — i od Związku Sowieckiego, i od NATO. Jeśli będzie zachowywała się jak prostytutka, biegająca od jednego klienta do drugiego, to wszystko skończy się bardzo źle. Polska powinna być wolną kobietą, dumną i szczęśliwą — powiedział Władimir Żyrinowski. Zapewnił przy tym, że w Rosji nie ma nastrojów antypolskich, a on sam wywodzi się z Polski, jego ojciec był Polakiem.*

*Gazeta Współczesna, nr 30*

Усялякія Дзяржынскія, Пржэвальскія, Мянжынскія, Жыриноўскія ў Расіі — гэта сапраўднае няшчасце для свету, а асабліва для рускіх.

***

*Didowszczyzna — w krajach postsowieckich to sposób obchodzenia się starszych żołnierzy, czyli didow (dziadków), z młodymi rekrutami — bandyckie zwyczaje, które przywędrowały z kryminałów. Wszystko to, co wymyślono w Wojsku Polskim to igraszka w porównaniu z tym, co działo się w Armii Radzieckiej. Tutaj bardzo często uczestnikami didowskich obrzędów byli oficerowie, których rekruci na plecach nosili do domu lub restauracji. Potem stali pod knajpą przywiązani na sznurku jak konie. Czekali, żeby odwieźć pijanego jeźdźca, gdzie rozkaże.*

*Gazeta-Magazyn, nr 6*

У польскай арміі пануюць амаль такія ж звычаі, з той аднак розніцай, што *karetą* ездзяць толькі *szweje*, ніколі *trepy*, як бывала ў савецкім войску.

***

*Aleksander Kwaśniewski śpiewał kolędy wraz z biskupem Sławojem Głodziem, ojcem duchownym naszej armii. Nawrócenie Aleksandra Kwaśniewskiego objawia się nie tylko życzliwością dla biskupa Głodzia. Najpierw była decyzja o zachowaniu kaplicy i kapelana w Pałacu Prezydenckim, potem Nowy Pan Prezydent mianował swoim rzecznikiem jezuitę. Teraz będzie walczył jak lew o ratyfikację konkordatu. Szczęść Boże.*

*Polityka, nr 6*

***

*W Białymstoku na 100 mężczyzn w wieku 20-34 lat przypada 105 kobiet. Zjawisko braku mężczyzn stawia w złej sytuacji kobiety i stanowi od lat poważny problem natury społecznej.*

*Gazeta Współczesna, nr 30*

Некаторым „джэнтльменам" прыйдзецца апекавацца дзвюма-трыма дамамі, каб палагодзіць напружаную сітуацыю.

***

*Władze BTSK na odchody 40-lecia nie zaprosiły w ogóle przedstawicieli Związku Białoruskiego w RP, w którego skład wchodzi kilka organizacji. Pytany przez „Gazetę" przewodniczący BTSK Jan Syczewski, dlaczego tak się stało stwierdził: „Oni są wobec nas nielojalni".*

*Wicepremier Białorusi Władimir Rusakiewicz wyróżnił Syczewskiego medalem przyznanym przez Aleksandra Łukaszenkę za wkład w rozwój kultury białoruskiej.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 42*

Прэзідэнт Лукашэнка заўсёды клапаціўся пра лёс беларускай мовы і культуры. Віншуем і мы лаўрэата лукашэнкаўскай узнагароды.

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч**, які пабываў у Беластоку на юбілеі 40-годдзя БГКТ, сустрэўся з прэм'ер-міністрам **Уладзімежам Цімашэвічам**, ваяводам **Анджэем Гаеўскім**, архіепіскапам **Савам**. У Генеральным консульстве высокі госць спаткаўся таксама з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый.

**Рэферэндум** наконт раздзяржаўлення маёмасці не прынёс станоўчых вынікаў, паколькі прыняло ўдзел 32% выбаршчыкаў. У сувязі з гэтым рэзультаты галасавання не маюць юрыдычнай моцы, а парламет і ўрад не абавязаны выконваць іх. У Беластоцкім ваяводстве на выбарчыя ўчасткі прыйшло 35% грамадзян.

Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь уведзены **абавязак рэгістрацыі чужаземцаў**, якія часова прабываюць на тэрыторыі рэспублікі. Згодна з новым распараджэннем, чужынцы на працягу трох дзён з моманту ўезду павінны прад'явіць свае пашпарты для рэгістрацыі ў вызначаных установах. За рэгістрацыю бярэцца адпаведная аплата.

**Генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Слямнёў** сустрэўся з ломжынскім ваяводам **Мечыславам Багінскім**. У ходзе спаткання абмеркаваны былі пытанні супрацоўніцтва з Ломжынскім ваяводствам.

**Міністр фінансаў**, які выконвае функцыю надзвычайнага сходу акцыянераў Польскага тэлебачання, прыняў пастанову аб увядзенні змяненняў у статут суполкі. Дзякуючы гэтаму магчымым будзе стварэнне новага **рэгіянальнага тэлецэнтра ў Беластоку**. Дырэктар Акцыянернага таварыства TVP **Веслаў Валендзяк** заявіў, што гэты дванаццацты рэгіянальны тэлецэнтр будзе апошнім у структуры Польскага тэлебачання. Першыя тэлеперадачы з Беластока выйдуць у эфір восенню гэтага года.

**Сусветны дзень праваслаўнай моладзі**, які выпадае ў дзень Стрэчання Гасподняга, адзначаўся маладзёжнымі брацтвамі Беласточчыны. Апрача ўдзельніцтва ў набажэнствах, сустрэчах і дыскусіях з духоўнымі, моладзь ладзіла таксама забаўляльныя мерапрыемствы.

**Згуртаванне гмін Белавежскай пушчы** — так называецца новая самаўрадавая арганізацыя, якую заснавалі прадстаўнікі гмін Гайнаўка (гміна і горад), Нараўка, Нарва, Дубічы-Царкоўныя і Кляшчэлі. У бліжэйшы час членамі гэтага згуртавання стануць яшчэ гміны Белавежа, Чаромха і Чыжы. Мэта арганізацыі — прамоцыя пушчанскай тэрыторыі, супольныя экалагічныя інвестыцыі, супрацоўніцтва з фондам „Polonia" дзеля прыцягнення замежнага капіталу і развіцця турызму. Старшынёю ЗГБП стала **Ядвіга Рудзінска-Патэюк**, бурмістр Гайнаўкі, намеснікам старшыні — **Анатоль Паўлоўскі**, войт Дубіцкай гміны, сакратаром — **Мікалай Павільч**, войт Нараўчанскай гміны.

**Гарадская рада ў Сэйнах** прыняла пастанову, у якой асудзіла выпадкі нішчэння дзяржаўнага сцяга і герба на будынку Консульства Літвы ў гэтым горадзе. Радныя звярнуліся таксама да сродкаў масавай інфармацыі з заклікам не атаясамліваць акты вандалізму з жыхарамі горада.

**Раённая пракуратура ў Бельску-Падляшскім** узбудзіла следства ў справе ашуканства на шкоду страхавой кампаніі. У выманьванні неналежных кампенсацый абвінавачваюцца тры мужчыны, якія вывозілі аўтамашыны ў Беларусь, а ў Польшчы паведамлялі паліцыю аб іх крадзяжы. У сувязі з тым, што паліцыі не ўдавалася знайсці злодзеяў, пракурор спыняў расследаванне, а страхавая арганізацыя выплачвала зламыснікам кампенсацыі. Хітрунам удалося выманіць 79 тыс. зл. за дзве быццам бы ўкрадзеныя машыны.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

- Псіхалагічны партрэт злачынцы — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- Размова Міколы Ваўранюка з дзеячкай БГКТ Тамарай Русачык.
- Як Адам Маньяк збіраў тайныя дакументы.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Некамплектныя саветы

На пасяджэнні Вярхоўнага Савета ад імя фракцыі „Грамадзянскае дзеянне" выступіў яе старшыня Станіслаў Багданкевіч з прапановай сфарміраваць кіраўнічыя органы ўлады ў тых населеных пунктах, дзе яны яшчэ не створаны. Багданкевіч лічыць, што трэба або аднавіць паўнамоцтвы старых мясцовых саветаў, або знізіць колькасць выбаршчыкаў да галасавання ў мясцовых саветах да 25%, каб канчаткова іх сфарміраваць. Незалежна ад гэтага група дэпутатаў мясцовых саветаў выступіла са зваротам да намесніка старшыні ВС Генадзя Карпенкі, у якім прапануе яму стаць ініцыятарам найхутчэйшага вырашэння ў парламенце пытання аб дзейнасці заканадаўчых органаў улады на месцах. „Насёння ў поўным складзе не абраны практычна ні адзін мясцовы савет, — гаворыцца ў звароце. — Не могуць прыступіць да працы 73 гарадскія, 35 пасялковых і сельскіх саветаў. Не могуць быць зацверджаны бюджэты і схемы кіравання мясцовай гаспадаркай".

### У абарону канстытуцыі

Чатырнаццаць партый і грамадскіх арганізацый Беларусі, сярод якіх Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларускі народны фронт, Беларуская нацыянальная партыя і шэраг іншых, падпісалі дэкларацыю аб стварэнні грамадскага руху ў абарону канстытуцыі. Яго задачамі з'яўляюцца ўзгадненне, каардынацыя, арганізацыя супольных дзеянняў па захаванні і ўмацаванні канстытуцыйнай законнасці, выкананне рашэнняў Канстытуцыйнага Суда, а таксама абарона дэмакратыі і фарміраванне прававой свядомасці грамадзян.

### Нераўнапраўная мова

Дыскрымінацыя — такое азначэнне рэальнага статусу беларускай мовы дадзена ў заяве, з якой удзельнікі сходу грамадскасці Віцебска звярнуліся да парламента, урада і прэзідэнта Беларусі. У заяве прыводзяцца факты аб змяншэнні ў віцебскіх школах першых класаў з беларускай мовай навучання. Пераводзіцца на рускую мову навучання і першая ў абласным цэнтры нацыянальная гімназія. Удзельнікі сходу патрабуюць дакладнага выканання закону аб мовах.

### Рэзалюцыя БНФ

Сойм Беларускага народнага фронту выступіў з рэзалюцыяй адносна дзесятай гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, якая споўніцца 26 красавіка г.г. На пераадоленне паследкаў катастрофы — канстатуецца ў рэзалюцыі — патрэбны вялізныя фінансавыя сродкі. Пасля развалу СССР кампенсацыю матэрыяльных стратаў Беларусі, прадугледжаную адпаведнай пастановай Савета Міністраў СССР, маскоўскія ўлады спынілі, хаця Расея — пераемніца Савецкага Саюза. Сума запазычанасці нашай рэспублікі з боку Расейскай Федэрацыі сягае 30 млрд. дол. ЗША. Сойм БНФ патрабаваў ад прэзідэнта Лукашэнкі тэрмінова ўзбудзіць справу аб выплатах грашовых кампенсацый Беларусі, тым больш што набліжаецца заканчэнне дзесяцігадовага тэрміну, вызначанага міжнародным правам для звароту ў міжнародныя арганізацыі са скаргамі, калі краіна, якая нанесла шкоду, не жадае выконваць свае абавязкі.

### Адрадзіць сялянства

У Менску адбыўся V з'ед Беларускай сялянскай партыі. Асаблівую ўвагу дэлегаты надалі абмеркаванню праграмы зямельнай рэформы. Першачарговай задачай у гэтым накірунку партыя лічыць неабходнасць адрадзіць сялянства, вярнуўшы яму права ўласнасці на зямлю. З гэтай мэтай на базе калгасаў і саўгасаў неабходна стварыць асацыяцыі фермерскіх і кааператыўных гаспадарак, акцыянерныя таварыствы і народныя прадпрыемствы. Працоўныя калектыўных гаспадарак павінны мець права выхаду з іх з надзелам зямлі і сваёй часткай сродкаў вытворчасці. Канцэпцыя зямельнай рэформы, якую распрацавала БСП, прадугледжвае таксама ліквідацыю адміністрацыйна-каманднай сістэмы кіравання сельскай гаспадаркай.

### З міністра ў дыпламаты

Былы міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, які застаўся без партфеля, магчыма атрымае новае прызначэнне — работу за мяжой. Яго кандыдатура разглядаецца на пасаду генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Гданьску.

### Прадпрымальныя турэмшчыкі

Сур'ёзная сітуацыя склалася ў папраўча-працоўных калоніях, якія знаходзяцца на тэрыторыі Магілёўшчыны. Як было адзначана на пасяджэнні калегіі абласной пракуратуры, колькасць асоб, якія адбываюць пакаранне, павялічылася амаль на адну трэць. Да 30% упала іх занятасць. Працаўладкаванне застаецца самай вострай праблемай. Але, як высветлілася, асуджаныя не сядзяць склаўшы рукі. Вось што выяўлена і канфіскавана ў іх: 873 колюча-рэжучыя прадметы, 114 літраў спірту, наркотыкі, больш за 2 тыс. долараў ЗША, амаль 8 млн. рублёў.

# Яны стваралі „Ніву”



Ада Чачуга.


Віталь Луба.


Ян Максімюк.


Яніна Чэрнякевіч.


Пётр Байко.


Міхась Хмялеўскі.


Міра Лукша.


Алесь Барскі.


Алесь Палескі.


Мікалай Панфілюк.


Міхал Голуб.


Віктар Рудчык.


Андрэй Гаўрылюк.


Эдуард Шчасновіч.


Уладзімір Сідарук.


Кастусь Сідаровіч.

# Традыцця і сучаснасць

4 сакавіка 1956 г. выйшаў з друку першы нумар „Нівы". Яе стваральнік і шматгадовы галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі піша ва ўспамінах („Віры"), што задумваючыся над загалоўкам часопіса „адчуваў дотык прагнутай з гісторыі рукі". Віленская „Наша Ніва" чакала свае прадаўжальніцы. Шмат супольнага спалучала тады абедзве „Нівы" — падобная чытацкая база, падобныя мэты, сціплыя інтэлектуальныя сілы для стварання газеты. „Сапраўдная полька пачалася пры камплектаванні асабовага складу рэдакцыі" — пісаў Валкавыцкі. Калі кадравік РСВ уручыў будучаму рэдактару спісак ахвотных працаваць у „Беларускай газеце", дзе пры кожным прозвішчы была занатоўка — „любіць пісаць", той жа меў аб чым думаць. „Усе шанаваныя і заслужаныя, — успамінае галоўны рэдактар, — але што з імі рабіць у рэдакцыі? Хоць і „любілі пісаць", ды, аказалася, ніякіх спроб у гэтым напрамку яшчэ не праявілі".

Міналі гады і „Ніва" дачакалася першага юбілею — 10-годдзя свайго існавання. Такія гадавіны адзначаліся тады разам з БГКТ, бо абедзве ўстановы ўзніклі ў тым самым часе, па волі тае самае „вядучай сілы". „Ніва", адзіная тады беларуская газета, шукала і знаходзіла свайго чытача. Але поспех „Нівы" не выклікаў ніколі захаплення з боку ўсялякіх дзеячаў. „Паставілі „Ніву" на дыванчык нацыянальнай камісіі, — піша Валкавыцкі. — Крытыкавалі-крытыкавалі, раілі-раілі, урэшце, выявілася — ніхто з шаноўнай кампаніі не чытае »Ніву«". Няма ўжо нацыянальнай камісіі, няма камітэтаў, але не надта што змянілася ад тае пары. Людзі так хутка не мяняюцца. Іншая кампанія, якая не чытае „Ніву", раіць і крытыкуе. Крытыка патрэбная кожнай інтэлектуальнай дзейнасці, так як для рыбы вада, але хацелася б аднак, каб крытыкавалі тыя, што прынамсі чытаюць.

Сорак гадоў — гэта гісторыя двух пакаленняў. Сотні журналістаў і карэспандэнтаў ствараюць доўгі спісак аўтараў тыднёвіка. Мяняліся людзі, умовы іх працы, амаль перастала існаваць вясковая чытацкая база, змянілася палітычная сістэма ў краіне, але чытаючы ўспаміны Георгія Валкавыцкага і параўноўваючы сённяшнюю сітуацыю „Нівы" складаецца чамусьці ўражанне, што час для нас — беластоцкіх беларусаў — затрымаўся недзе ў шасці- ці сямідзесятых гадах. Новыя людзі ходзяць старымі дарогамі, новыя лозунгі ўпісаліся ў стары кантэкст, амаль некранутае асталося псіхалагічнае акружэнне, якое спадарожнічае кожнай спробе прапагандавання свабоды слова і думкі. Цэнзараў-ураднікаў заступілі цэнзары-добраахвотнікі, якіх энтузіязм, спалучаны з асабістымі інтарэсамі, бывае часам куды больш дакучлівы чым тых першых. Магчыма таму шмат людзей, уцякаючы з гэтага свойскага свету, трапляе ў круг чужой культуры, бо сваё асяроддзе не талеруе ніякага вальнадумства.

„Колькі тут дзікай злосці і дарэмнага шаленства", — пісаў Валкавыцкі („Віры", с.180), парушаны інтрыганцтвам аднаго з актывістаў. З нагоды юбілею хацелася б напісаць, што цяпер ёсць інакш, што ўсё змянілася. Але можа калі „Ніва" дачакае больш круглага юбілею — 50-годдзя — нейкі рэдактар будзе мець абгрунтаваную ахвоту напісаць на першай старонцы: „Навучыліся і мы, беларусы..."

**Яўген Міранові́ч**

# Бежанства

Вельмі добра, што знайшліся людзі, якія зацікавіліся бежанствам. Гэтая гістарычная падзея, якая распачалася ў 1915 годзе, была выследкам канфліктаў і вайны паміж тадышнімі супердзяржавамі. Наша Беласточчына была тады часткай Расейскай імперыі. Мой дзед Кузьма Савульскі з Васількава быў мабілізаваны ў царскую армію і, развітаўшыся з жонкай і шасцярымі дзяцьмі, паехаў у ваенкамат у Саколку і ўсякі след па ім прапаў. Праўдападобна загінуў у баях пад Таненбергам ва Усходняй Прусіі ў саставе арміі генерала Самсонава. Ішоў 1915 год, расейскія войскі адступалі пад напорам праціўніка. Калі набліжаліся да Беласточчыны, расейскія ўлады рашылі эвакуіраваць „мирное население Северо-Западного края", каб акупант не мог яго выкарыстаць для сваіх спраў. Расейскае камандаванне прымяняла тактыку „спаленай зямлі". Не знаю, што дзеялася ў Беластоку, але ў маёй найбліжэйшай ваколіцы, у Каралёвым Мосце і ў Разаліне, былі спалены бабаўняныя фабрыкі. Нават некаторыя вёскі былі спалены, хаця мая вёска Калодна асталася. Эвакуацыю папярэдзіла адпаведная прапаганда аб здзеках з боку акупанта. Былі выдзелены спецыяльныя вайсковыя падраздзяленні для рэалізацыі гэтага мерапрыемства; людзі называлі іх „казакамі". Мае продкі з Калодна, дзядуля з бабуляй, падаліся ў бежанства, забіраючы з сабою дзве дачкі і траіх сыноў. Цэлыя вёскі ехалі на ўсход *гужавым абозам*, г. зн. коннымі фурманкамі.

Расея апынулася тады ў цяжкіх эканамічна-мілітарных абставінах, аднак эвакуацыю трэба было давесці да канца. Праўдападобна ўласным транспартам не дабраліся б мы ў глыб Расеі, нават у еўрапейскай частцы. Трэба было перасадзіць бежанцаў з фурманак на чыгуначны транспарт. Выхадцы з Беласточчыны рабілі гэта ў Баранавічах, дзе быў вялікі чыгуначны вузел. Хаця сітуацыя, з увагі на вайну, была цяжкая, аднак нашы суродзічы не наракалі: парадак, бяспека і харчаванне былі неблагія. Большасць бежанцаў у даволі кароткі час дабралася на месцы прызначэння.

Мая сям'я познім летам апынулася на Тамбоўшчыне, у горадзе Кірсанаў. Тут была выгрузка. Прыехалі на падводах мужыкі з сем'ямі. Бралі нас нарасхват: „Ка мне, к нам!" клікалі, везлі нас у свае вёскі і сёлы, на сваё ўтрыманне. Наша сям'я папала ў сяло Іканаўка Кавульскай воласці Кірсанаўскага уезда. Мама стала на працу ў сушыльны завод у Расказаве. Другія, што не ішлі на працу, дапамагалі на гаспадарцы. Зямля там была раўнінная, ураджайная, лясоў паблізу не было. Тата хутка накіравалі ў армію і, з увагі на тое, што меў пачатковую адукацыю, быў скіраваны ў ваеннае вучылішча на курсы малодшых камандзіраў у горад Казлоў (пазней Мічуринск). Пасля заканчэння курсаў атрымаў званне унтэр-афіцэра. Пачаткова абучаў маршавыя роты навабранцаў, пасля быў адкамандзіраваны на фронт на тэрыторыю Беларусі ў раён Маладзечна. На пачатку было змаганне з праціўнікам, пасля мітынгі і ў рэшце рэшт старую армію распусцілі. Мой тата вярнуўся з фронту да сям'і на Тамбоўшчыну. Татаў малодшы брат уступіў у Чырвоную Армію і загінуў бясследна недзе пад Уралам. Тата з мамай пажаніліся ў Расеі; нават у царкве павянчаліся.

Станавілася неспакойна, чырвоныя змагаліся з белымі, жыць стала небяспечна, паявіліся цяжкасці з харчаваннем. Тату ўдалося неяк аформіць вяртанне на радзіму: забраўшы сваю сям'ю, сям'ю маці з Васількава і яшчэ некалькі суседскіх сем'яў, аднымі з першых вырушылі мы ў другой палове 1918 года на бацькаўшчыну. У Беласток прыбылі дзесьці на восень, стаялі тут яшчэ нямецкія акупанты. Потым паявіліся польскія легіёны, Чырвоная Армія ў час польска-савецкай вайны, і пасля Рыжскага трактату пачалося звычайнае ўжо змаганне за экзістэнцыю.

**Антон Казлоўскі**

# Навагоднія рэфлексіі беларускага студэнта

Колькі гэта часу прайшло? Падлічым. Амаль месяц. Месяц як няма гарачай вады і два тыдні як няма зусім ніякай. О! Яшчэ і святло выключылі! Цікава, ці толькі на нашым паверсе, ці ва ўсім інтэрнаце? Нервова выбягаеш на калідор. Цёмна. Толькі Ваня з шостага, дрынькаючы на сваёй расстроенай гітарцы, спрабуе спяваць нешта накшталт: „Не падайте духом, поручик Галицын". Галіцын можа і не падзе, але ты, прадукт шалёнай цывілізацыі канца (няўжо?) XX стагоддзя, шкадуеш нервы на бессэнсоўныя размовы з камендантам інтэрната, прарэктарам, пра рэктара ўжо не кажучы.

Але і так не даведаешся: чаму? за што? калі скончыцца? хто верне грошы? Адзін такі, мабыць з трэцяга, прабаваў нават пікетаваць, але супакоіўся, атрымаўшы недвухсэнсавае папярэджанне.

І так, сядзіш ты, чалавек касмічнай эры, пры свечцы (як пры першабытным вогнішчы) і, ахутаўшыся ва ўсе свае і сяброўчыны пледы (добра, што не ў скуры), трымаеш у руках шклянку з шампанскім. Як святкаваць Сільвестра, дык святкаваць!

Са старым годам развітваемся без шкадавання, тым больш, што ён быў свінячы, згодна не толькі з японскім назовам.

Ну што ж, зробім маленькае рэзюмэ: Стыпендыю абрэзалі, падсялілі трэцяга ў пакой, абяцаюць усіх высяліць, а з інтэрната зрабіць прыбытковы гатэль, выключаюць ваду, святло, ацяпленне ўсярэдзіне зімы. І далей: цэны растуць, хаця долар „стаіць" (як сказаў прэзідэнт: „Інфляцыя, стой! Раз, два".), тавараў беларускай вытворчасці ўсё менш і менш, затое дарагіх заходніх хоць гаць гаці, заробкі рэдка выплачваюць на час, усё часцей і часцей спатыкаеш людзей з працягнутай рукой, доўгімі языкамі і вытрашчанымі на цэны вачамі, адным словам, акрамя мясцовай „махвіі", як гаворыць цётка Гэля з „Кулінарыі", ніхто нічога не робіць, бо навошта?

Выпіваючы шклянку за маскалёўскі Новы год (хай ім добра жывецца!), даходзім да геніяльнай думкі, што твая вучэльня і інтэрнат — гэта мікрамадэль усёй Беларусі, краіны, якую апошнім часам усё менш і менш разумееш. Такая яна непрадказальная.

Твая гіпотэза знаходзіць сваё пацвярджэнне праз тыдзень, калі студэнты з'яўляюцца ў сваёй каханай Alma Mater пасля святочных канікулаў. Свежанькія (ну, можа не ўсе), разумненькія так і пруцца ў інстытут, каб з невыказнай ахвотай здаць першыя іспыты, але тут іх чакае нечаканае — аварыя сеткі інтэрнацкага ацяплення. Хочаш ці не — усе студэнты высылаюцца на прымусовыя канікулы. Калі ласка, сантэхнікі справяцца з работай — прыязджайце здаваць сесію. А каб вам добра не жылося, памятайце, што іншыя зімовыя канікулы ў гэтым годзе не прадбачваюцца. Так што вяртайцеся, дарагія студэнцікі, праз два тыдні. Здасцё іспыты і за работу!

І як тут не ўскрыкнуць: як добра жывецца беларускаму студэнту!

Але пара заканчваць. Неўзабаве поўнач, а кожнаму разумнаму дзіцятку трэба ведаць, што апоўначы, дзеля эканоміі сродкаў, выключаецца святло, закручваюцца ўсе краны з вадой, а па інтэрнаце ўпоцемках ходзяць міліцэйскі патруль і гоніць усіх завучыўшыхся дзетак спаць.

Добрай ночы, беларускі студэнт!

**Альжбета Тамчук,**
**Менск**

# Віктару Шведу

Ці памятаеш, Віктар, сорак сёмы год
У акадэміку на Нарутовіча
у Варшаве?
Яшчэ тады не зналі мы турбот,
Час сходзіў на вучобе і забаве...
Сяброў цікавых мелі мы тады:
З Канады Жорж ды Любамір ад Ціта.
У маі ў Скалімове ля вады
На імянінах Зосі — гэта ж не забыта.
Ты вершы першыя свае чытаў.
Мой грэх — я думаў, вось забава.
Тады яшчэ я не ўгадаў,
Што гэта не на жарты ўжо справа.
А памятаеш: у годзе пяцідзесятым,
Калі сто злотаў памянялі на
златоўку
Замест трох? Такі закон праклятым.
Тады пайшлі ў „Брыстоль",
патрацілі без толку.
Шасцёх было нас, у гэтым ліку і мой
брат
Ды Эрнэст з Францыі,
Мікола-архітэктар,
Яшчэ студэнт-балгар, ні брат, ні
сват, —
Усё прапусцілі, да граша, дашчэнту.
Усё прайшло, разбегліся па свеце...
Сустрэча ў Гайнаўцы,
у шасцідзесятым пятым.
З Табою — Брыльскі, са мной
— Каханскі Пецця...
Потым праз трыццаць год.
З табою, як паэтам.

**„Улас"**

## Наша ПОШТА

**Паважаная Рэдакцыя!**

20 верасня 1995 г. я абараніла магістэрскую працу на тэму паэтычнай творчасці вядомай беларускай пісьменніцы, паэтэсы Надзеі Артымовіч. Тэма маёй працы: „Паэзія — гэта пастка (аб творчасці Надзеі Артымовіч)". Я пісала працу пад кіраўніцтвам праф. Аляксандра Баршчэўскага — загадчыка Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Хачу выказаць сардэчную падзяку Аўтарцы за аказаную мне ўсебаковую дапамогу ў доступе да шматлікіх матэрыялаў, распрацовак і крыніц, звязаных з яе творчасцю.

У сувязі з Юбілеем зычу Паэтэсе ўсяго найлепшага ў жыцці і многа сіл у рэалізацыі творчых планаў.

**Галіна Семянюк**

# Рэквіем

*Марылі Базылюк-Саснюк*

Чужыя мо забудуць пра цябе,
як забываюць што было ўчора,
адно сям'і тваёй асірацелай
ужо да канца змагацца з горам.

Над мармуроваю плітой,
— няхай і кветак на ёй многа,
не ўлежыць твая творчая душа, —
яна ўзляціць на зорную дарогу.

А там, у сіняве нябёс
Анёлы падаруюць табе крылы,
каб Невідзімкаю магла ты зноў
прыбыць у краіну, дзе цябе любілі...

І ўжо не на паперы, як калісь,
але на шырыні блакітнай Неба
няскончаны свой верш тут на Зямлі
дапішаш Там — халодным срэбрам.

**Алена Анішэўская**

**Усхваляваныя сумнай весткай аб заўчаснай смерці**

**Марылі Базылюк-Саснюк**

**колішняй дзеячкі беларускага руху ў Варшаве, словы шчырага спачування Яе сям'і выказвае Праўленне Аддзела БГКТ у Варшаве.**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 434*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*Генавефа Коць-Сэнюх*

## Адкрытасць да іншых у паэзіі Яна Чыквіна

Адкрытасць да іншых належыць да ліку тых, вельмі істотных, каштоўнасцяў у грамадскім і адзінкавым чалавечым жыцці. Застаецца гэта ў сувязі з той перакананасцю, што іншы духоўна ўзбагачае нас, а мы можам узбагаціць яго. У гэтым паняцці змяшчаюцца канатацыі наконт пашаны да чалавечага суб'екта, ушанаванне другога чалавека, даверу да яго, разумення, талерантнасці. У паняцці гэтым змяшчаюцца, таксама, аўтакрытыцызм ды чалавечая мудрасць. Адкрытасць нярэдка бывае актам адвагі, трэба сказаць і тое.

Кажучы пра адкрытасць да іншых, адначасна вяртаемся да тых галоўных каштоўнасцяў, з якімі звязана гуманістычная псіхалогія і сучасная паідэя, філасофія сустрэчы і дыялога, канцэпцыя чалавека ўнутрана свабоднага. Спадзяванні на людзей, поўных дабрыні. І на міжчалавечую салідарнасць.

Сустрэча з паэзіяй Яна Чыквіна — гэта не звычайны абмен інфармацыямі або спрэчка. Гэта дыялог, абмен каштоўнасцямі.

Адбываецца тое дзякуючы самому аўтару, дзякуючы пастаўленым ім жа пытанням да іншых, у супастаўленні з рознымі меркамі чалавечае экзістэнцыі. Адбываецца тое, таксама, і таму, што ў гэтым дыялогу прыцягвае ўвагу чытача не столькі сама паэтычная форма твора, колькі менавіта ягоны змест. Хуткаплыннасць, напрацаваная прастотнасць ды лёгкасць у перадачы зместу меркаванняў знакаміта аблягчаюць гэты дыялог. Няма фразаў або выразаў толькі на выгляд глыбакадумных, уяўна ўрослых у жыццё, а па сутнасці пустых.

Менавіта канкрэтнасць, і ў тым жа значэнні непаўторнасць адносінаў аўтара да асабістых сувязяў з прынараўскай вёскай, як і абагуленасць ягоных меркаванняў наконт супольнасці каштоўнасцяў ды традыцыяў памежжа, — ствараюць цэласную адкрытасць да іншых, да чалавечае лёсавызначальнасці. Як у *Адвечным дыялогу*, дыялогу пакаленняў у цэлым жыцці і ў прамінанні.

Памежжа — натуральная і духоўная бацькаўшчына аўтара — уяўляецца сімвалам і, адначасна, грунтам дзеля адносінаў да агульначалавечых пытанняў. У іх коле паяўляюцца і пытанні пра сэнс быту, пра этас і этнас чалавека, пра суадносіны паміж сваім *я* і чужаіншым *я*.

Паэзія Яна Чыквіна правакуе зазірнуць у самога сябе, задумацца над тым, што кожнае *я* у дачыненнях з іншым *я* ёсць нечым раўнаважным, і што прыход у нашае жыццё пасрэдніцтва іншых самавызначае разуменне сябе і свету, у якім існуем, дае магчымасць адшукаць у іншым *я* сваё *іншаіснаванне*; духоўна ўзбагачае. Гэта і ёсць той чалавечы досвед разумення іншых. Тым не менш сама катэгорыя разумення іншага — складаная, можа яна спрыяць узаемнаму адкрыццю, але і гэтак жа блакіраваць.

Разумець іншага — гэта знаць яго, прадбачваць ягоныя паводзіны, рэакцыі, што можа быць выкарыстана і ў эгаістычных мэтах. Той жа іншы, робячыся сродкам дзеля нашых мэт, падлягае дэградацыі да прадмета. А жывем жа ў супраціўнасці з рэчамі, як зазначае аўтар.

Разуменне іншага раўназначнае з разуменнем яго як асобы, хоць разам з тым разуменнем суадносім іншага з сабою, упісваем яго ва ўласны арэал каштоўнасцяў, іх градацыю. Тыя суадносіны несумненна ўзаемныя, але гэтая ўзаемнасць прадыктаваная *выпрабаваннем сілаў*, імкненнем дамінаваць адзін аднаго.

Разумець іншага — гэта таксама рэляцыя, калі *я* спазнае рэчаіснае *ты*, спазнае іншага ў плане двухсуб'ектнасці, іншага ў якасці таго, хто хоча нешта сказаць, выказаць, дэкларуе свае пажаданні. Таму гэта рэляцыя ўзаемнай, двухбаковай адкрытасці на тое, што іншы хоча табе сказаць. Абазначае гэта яднанне *я* і *ты*, сапраўднае зразуменне іншага. Узаемнасць такое рэляцыі прычыняецца да таго, што разуменне іншага пераўтвараецца ў дыялог, гутарку, абмен каштоўнасцямі, гатоўлівасць спазнаць другога чалавека.

У намаганні зразумець іншага мы непазбежна апынаемся *перад*. Перад уз'яднаннем двух светаў — свету каштоўнасцяў *я* і свету каштоўнасцяў *ты*, апынаемся перад выбарам, перад разуменнем дзеля паразумення. Рознасць думак наконт разумення іншых прадвызначае межы ўзаемаадкрыцця. Гэта і мае на ўвазе аўтар у шмат-якіх творах. І тады, калі піша:

*Хочаш не хочаш*
*дадуць табе імя*
*за сталом пасадзяць*
*чарку сцябнуць*
*навучаць*
*навучаць кусацца*
*грашыць навучаць*
*навучаць уцякаць*
*дабро капіць*
*навучаць*
*навучаць пагарды да людзей*
*ілгаць навучаць*
*навучаць лазіць пастаянна ў рай*
*і раней бацькі ў пекла не лазь*
*навучаць (...)*

І тады, калі самаадкрытасць аўтара прадвызначае пачуццё любоўі, якое стрымлівае яго, грэшнага, перад уваходам у царкву. І калі дзверы людскога жытла заляскваюцца перад блукаючым турыстам.

І калі ў Беластоку, поруч з царкоўнымі купаламі і касцельнымі пальцамі готыкі, вырастаюць небачосы накшталт награмаджанага жыцця, ананімнага, адчужанага, без пачуццёвае блізкасці, без сувязяў. І толькі недзе адкрытымі картамі гуляюць...

І калі:

*Натоўп людзей, як жыта летам,*
*Хістаўся ў нарастаючай гарачцы...*
*— Гарэзнікі! Прайдохі гэтыя паэты!*
*Вучыцца ў школу! Ці — да працы!*

І калі сцвярджае, што свет аглухлы ўжо і маўчыць нездаровым маўчаннем.

Ян Чыквін — зоркі наглядальнік жыцця і чуйны слухач чалавечых лёсаў. Ян Чыквін адкрыты да іншых, як кожны, хто хоча нешта важнае пачуць або і галоўнае, — абавязкова характарызуецца гэткай адкрытасцю. Гэта значыць, быць і ўдзельнічаць у дыялогу. Як у *Кругавой чары*: *І я быў з вамі*.

Ян Чыквін у сваіх шматлікіх творах перакрочвае гарызонт таго, што блізка вядомае, сваё. Сігаючы далей, праднакрэсліваючы перспектыву адкрыцця дзеля дыялогу са шмат-якімі універсальнымі каштоўнасцямі, дыялогу ў багацці чалавечае прыроды. Нягледзячы на тое, што воссю гэтага дыялогу застаецца бацькаўшчына, гэтая натуральная і тая ў марах — Беларусь.

Зборнік *Кругавая чара* пачынаецца вершам *Крык начны савы*. Дзякуючы такой узаемнасці, досведу іншых, падпарадкоўваецца думка адпаведна універсальным каштоўнасцям.

*Што ёсць быццё? Што — чалавек?*
*Што — Бог?*
*Чаму нікому нельга лёсу*
*перайначыць?*

*І што ёсць час — рака ці акіян?*
*Вытокі дзе яго? І дзе яго скрыжалі?*

*А чым свабода ёсць? (...)*
*Цудоўны божы дар? Пыхлівы*
*чалавечы мык?*
*Чаму ўсё жыццё свой камень пхаем*
*пад гару?*
*Адгадкі ў свеце, мабыць, ёсць! Але*
*не выкажа язык.*

А ў вершы *Сцежка* ставіць Чыквін такія пытанні:

*Хто я? Чаму я? Мус? Выпадкова на*
*гэтай планеце? З мысляй у целе?*

Побач з вобразам Маці, якая, хрысцячыся, *пачала ні то малітву паўтараць, ні то развязваць вузельчыкі свайго жыцця* і вобразам Бацькі, што ідзе полем ды абсейвае скібы, у якіх *вечнасць даўно* — несціхана вяртаецца матыў роднай зямлі, краявідаў, мараў пра Беларусь ды яе непадлеглы голас:

*Як доўга нам суджана, Божа,*
*маўчаць?*
*Дык можа хоць ныня адпусціш,*
*Святы Божа, беларусам.*

У коле пытанняў пра сэнс жыцця, пра лёс, прамінанне і бясконцасць, чара ўзаемнасці падносіць рэфлексію ды зразуменне таго, што не ўсё ў нашых рук магчымасці, не ўсё можам прадбачыць, нашы думкі і намеры заўсёды няпэўныя. У нас няма ўлады над часам, не маем яе і над будучынёю нашай. Гэта зразуменне таго, што анішто не вяртаецца. Гэта рэфлексія ад зразумення мінулага.

Усё ж інтэлектуальны досвед наконт уласнае закончанасці, адзіноцтва чалавека, адначасна ўяўляе сабою і той досвед, які вучыць апазнаваць чалавека і свет, быць адкрытым да багацця натуры іншых. У *крузе чары* ўзаемнасці — беластоцкія творцы і сінявокая славянка, *Сын вёскі, брат крыніцы і травы*, які ў пошуках загубленых духоўных каштоўнасцяў Санкт-Пецярбурга. І:

*Мы ў беларускім палоне,*
*Як прамоўцы ў Гайд-парку.*

Выступае і фінціклюшнік, якому шанцуе на бяздумна лёгкае жыццё, і сутыкненне геройства са штодзённасцю, ад чаго *асталіся мундзіры*. Ад сутыкнення з этасам працы:

*Сястра дваюрадна на плоце*
*Раны ліжа, вярнууўшыся з поля.*

Чыквінскія героі ўсяляк прэзентуюцца ў сваёй адкрытасці да іншых і ўсяляк у іх з самою адкрытасцю. Як у жыцці. Няма тут макатнага візарунку памежнага чалавека, своеасабліва адкрытага да *я* іншага. Адкрытасць гэтая намнажаецца ў зінтэграваным партрэце этасу і этнасу чалавечых лёсаў, у прыгажосці і каштоўнасцях традыцыяў памежжа.

Этас і этнас — спалучэнне суіснавання — гэта асаблівая каштоўнасць. Асаблівая таксама дзеля сучаснае паідэі, дзеля выхавання і адукацыі сучаснага чалавека. Чым жа можа быць адукацыя, калі не адкрытасць да іншых, калі не ўмельствам рабіць выбар каштоўнасцяў ды ўспрыманнем у шырокім паняцці твораў мастацтва? Чым жа тады сучасная паідэя, калі не накіраванасцю на духоўнае быццё ў сучасным свеце і выпрацоўкай здольнасці спасцігаць пытанні, якія ставіць перад намі наша супольная чалавечая традыцыя?

У свеце выхавання і адукацыі сучаснага чалавека належыць якраз паэзіі своеасаблівая місія. Не існуе метад навучання пытанняў. Трэба хацець быць, хацець умець, хацець ведаць, каб убачыць пытанні, ставіць іх, фармуляваць. Гэтага вучыць паэзія. Творчасць паэта, творчасць Яна Чыквіна, гэта не толькі праява ягонае спеласці, асабістага дзеяння. Гэта дзеянне ў сферы сустрэчы і дыялога, пытанняў элементарных каштоўнасцяў, суадносінаў *я — ты — мы*. Гэта дзеянне ў абсягах выхавання ўнутрана свабоднага чалавека.

*Пераклаў С. Яновіч*

*Ліна Кастэнка*

* * *

Не бывае музыкі Сальеры!
А, мабыць жа, кучы партытур,
ляжаць, мабыць, дзесьці ж на паперы
оперы з кантатамі ўшчыльную.
Сі-бемоль жа там нейкі раіўся,
недзе часам нота ж ажывае!

Хто атручваў, сабою ж атруціўся.
Музыкі Сальеры не бывае.

**Са зборніка „Непаўторнасць" (Кіеў, 1980)**

*З украінскай мовы пераклаў Юры Трачук*

*Анна Маркова*

### Чаму?

Калі баліць сэрца
Ныркі або вантроба
Гэта доказ — што яшчэ жывая
Дык жадай болю
Чаму не жадаеш?

Калі ідзеш дарогаю
Якая занадта стромкая
Гэта доказ — што кудысьці вядзе
Дык спяшайся
Чаму не спяшаешся?

Калі нешта страціш
Што не споўнілася
Гэта доказ — што было вартае
Толькі страты
Чаму шкадуеш?

Калі не памірышся
З кожным прамінаннем
Гэта доказ — што ўжо
паразумнела
Дык бадзёра прамінай
Чаму не можаш?

*Пераклаў Віктар Швед*

*Алесь Чобат*

### Чырвоная ружа

Чырвоная ружа. Кропля чырвонай крыві.
Калі я гляджу на цябе і глядзяць на цябе другія,
кроплі кропаюць з ружы, як слёзы з Панны Марыі,
але ў краіне такой і на гэтай зямлі
трапляюць на камень яны.
І хоць точыць кропля камень,
але да першай расколіны мы не паспеем дажыць —
таму залезь мне на шыю, апавіся моцна рукамі,
пакуль нас яшчэ не забілі і ружа яшчэ дрыжыць.

Зорка
старонка для дзяцей



*Лёнік Тарасэвіч — сяброўскі шарж Камілі Лабузінскай — лаўрэаткі сустрэч "Зоркі" на найлепшую карыкатуру (узнагарода — 10 літраў кока-колы).*

# III Сустрэчы „Зоркі”

праходзілі ў Бандарах 12—17 лютага г.г. На працягу пяці дзён нашыя карэспандэнты і старэйшыя сябры працавалі ў чатырох групах.

Публіцыстычны гурток пад кірункам Лены Глагоўскай і Алега Латышонка запісваў усе здарэнні, якія адбыліся на нашых курсах. Апрача гэтага публіцысты наладзілі сустрэчы з Нінай Ціванюк, Юркам Ляшчынскім, правялі размовы з жыхарамі Бандароў, працаўнікамі Семяноўскага вадасховішча і ўдзельнікамі нашых сустрэч.

Літаратурная група пад кіраўніцтвам ніжэйпадпісанай падрыхтавала вечарыну з Мірай Лукшай. Літаратары наведалі паэта Уладзіміра Гайдука, месца нараджэння Алеся Барскага, народнага паэта Хведара Хлябіча з Рыбакоў.

Мастацкая група пад кірункам Лёніка Тарасэвіча займалася рысаваннем сцэнак з жыцця, стварыла тры карціны (на асабістых простынях Лёніка) пад лозунгам „Не люблю школы”, „Кахаю”, „Рэчка, горка, лес”. Апошні шэдэўр паслужыў як сцэнічнае афармленне для пантамімы „Мацейкава гара”.

Тэатральная група рашылася на эксперыментальны тэатр-гульню „Масленіца ў наваколлі Бандароў”, дзе адной са сцэн была згаданая пантаміма паводле мясцовай легенды. Гэтай самай вялікай групай кіравалі Дарафей Фёнік, Валя Бабулевіч і Тамаш Саевіч.

У сустрэчах „Зоркі” працавала сорак асоб. Удзельнікі не толькі пазнавалі беларускую мову (датычыць гэта перш за ўсё польскамоўнай групы з Вераб’ёў), але і добра разам гулялі. За пяць дзён паўстаў багаты публіцыстычны, літаратурны, мастацкі і тэатральны матэрыял. Мерапрыемства завяршылася ўрачыстай прэм’ерай „Масленіцы ў наваколлі Бандароў”. Разам з намі былі жыхары навакольных вёсак, персанал гасцініцы, беластоцкая моладзь, што пад адным дахам праводзіла зімовыя канікулы.

А вы, дарагія чытачы, пазнаёміцеся з нашымі працамі ў чарговых нумарах „Зоркі”. Сёння публікуем некаторыя творчыя праблёскі нашых публіцыстаў, літаратараў і мастакоў.

**Ганна Кандрацюк**

# Што мы рабілі?

У публіцыстычнай групе працавалі: Яся Сегень, Ірэна Кулік, Хрыстафор Яканюк, Міхась Стэпанюк, Андрэй Таранта, Лена Глагоўская, Алег Латышонак.

Мы пазнавалі цікавых людзей і наваколле. Вучыліся карыстацца дыктафонам: запісвалі на стужку размовы, праслухоўвалі іх, спісвалі, перапісвалі. Размаўлялі са спатыканымі людзьмі. Уважліва назіралі, што дзеецца вакол нас. Усе нашы назіранні, размовы выкарысталі ў нашых дзённіках, справаздачах, рэпартажах. У аўторак, 13 лютага, сустрэліся з Пятром Салаўём (год нараджэння 1906) з Рудні, які ў гадах 1915-1922 быў у бежанстве ў Расеі.

У сераду, 14 лютага, сустрэліся мы на плаціне з інжынерам Аляксандрам Кардашом, які расказаў нам пра вадасховішча, паказаў плаціну. У Рыбаках мы наведалі былых настаўнікаў беларускай мовы ў Луцэ і Лешуках, Тамару і Яна Ціванюкоў. Сустрэліся з рэдактарам Радыё Беласток Юркам Ляшчынскім. Разам з ім запісвалі матэрыял для радыёперадачы. У чацвер мы паехалі ў Ялоўку, Мастаўляны і Юшкаў Груд. Размаўлялі там з людзьмі, з айцамі Яўгенам Кахановічам і Славамірам Тафілюком. У пятніцу зрабілі інтэрв’ю з апекунамі і ўдзельнікамі Сустрэч „Зоркі”. Кожны дзень займаліся апрацоўкай сабраных матэрыялаў і пісалі тэксты для „Зоркі”.

**Лена Глагоўская, Андрэй Таранта**

# Ад дубоў, Нарвы, людзей...

*Інтэрв’ю з Мірай ЛУКШАЙ*

У час III Творчых сустрэч, што праходзілі ў Бандарах, наведала нас паэтэса Міра Лукша, член Беларускага лі- таратурнага аб’яднання „Белавежа”. Літаратурная група: Аня Садоўская, Жанэта Роля і Міхась Дзмітрук у час двухгадзіннай сустрэчы распытала нашага госця пра жыццё і творчасць.

*Якое месца для вас асацыюецца з дзяцінствам?*

— За Семяноўкай недзе паўтара кіламетра знаходзіцца вёсачка Баравыя. Там пражыла я свае дзяцінства. Маё маленства і юнацтва — Белавежская пушча.

*Ці месца мела ўплыў на тое, што вы сталі беларускай паэтэсай?*

— Напэўна. Прырода мела вялікі ўплыў на маю творчасць. Найбольш захаплялася я рэчкай Нарвай і пушчай.

*Калі вы пачалі пісаць першыя вершы?*

— Першыя вершы на роднай мове я пачала складаць у другім класе пачатковай школы.

*Вы апрача вершаў пішаце апавяданні. Які жанр вам найбольш адпавядае?*

— Некаторыя пісьменнікі кажуць, што кожны пачынае ад паэзіі, пасля „дарастаюць” да прозы, большых літаратурных форм.

*Чаму вы ў сваіх апавяданнях пішаце пра старых людзей?*

— Старыя людзі маюць многа чаго нам пераказаць. Вопыту, ведаў, светабачання. Перажывалі не адно, ведаюць, што гэта ёсць каханне жыцця і яго прыгажосць.

*Чым для вас ёсць паэзія?*

— Паэзія ёсць паэзія. Усюды яна ёсць. Паэзія — гэта прыгажосць кожнай хвіліны, якую мы перажываем.

*Ці кожны чалавек можа быць паэтам?*

— Нават не будучы паэтам, можна стварыць адзін геніяльны верш у жыцці, але без натхнення не можам пісаць добрых твораў.

*Ці сёння, будучы жыхаркай Беластока, вяртаецеся ў родныя мясціны?*

— Вяртаюся ў творах, у сустрэчах з людзьмі. У маіх апавяданнях увекавечаны вёскі, якія асталіся на дне Семяноўскага возера і на яго берагах і людзі. Вучу таксама майго маленькага сына, адкуль ён узяўся і дзе яго карані.

*Дзякуем. Нам вельмі спадабалася сустрэча з вашай творчасцю. Захапіла нас ваша адданасць роднай старонцы.*

**Жанэта Роля, Аня Садоўская, Міхась Дзмітрук**
**(літаратурная група)**



*Сямейная замалёўка Паўліка Кубаеўскага.*

## Любоў, вернасць, адданне

Зямля — мая радзіма,
Пакахаў я цябе цэлым сэрцам.
Калі не ведаў што гэта
Любоў, вернасць, адданне,
Але цябе кахаў на свой спосаб,
Пісаў вершы на тваёй мове,
Вучыўся пісаць і чытаць,
Бо я жыву для цябе,
Для цябе, ты мая Беларусь.

**Міхась Дзмітрук**

# Сустрэча з Нінай Ціванюк

У аўторак перад абедам адбылася сустрэча са спадарыняй Нінай Ціванюк. Яна — мясцовая настаўніца гісторыі — даследавала асадніцтва на гэтых землях.

Сп. Н. Ціванюк расказвала нам пра гісторыю Бандароў і зямель Ялоўскага староства. Ялоўка была заснавана ў XV стагоддзі і была галоўным асяродкам гандлю. Раней тут расла пушча. Пасяляліся тут беларусы. Кожная вёска мела занятак. Жыхары Бандароў рабілі бочкі, цэбры і дзежкі — адтуль і пайшла назва вёскі. Рыбакі лавілі рыбу, жыхары Боўтрыкаў наганялі рыбу боўтаючы ваду. Жыхары Рудні здабывалі руду патрэбную да вырабу жалеза. У вёсцы Буды першыя асаднікі жылі ў шалашах — будах. Спадарыня Ніна расказала нам пра назвы палёў, пагоркаў. Кожная вёска мае сваю цікавую гісторыю.

Дзякуючы спадарыні Ніне сталі для нас бліжэйшымі Бандары і іх наваколле.

**Міхась Стэпанюк, Хрыстафор Яканюк, Андрэй Таранта**



*"Мая вуліца".*
**Мал. Петруся Дземянюка.**



Талон "Зоркі" н-р 9
3.03.1996



"*У царкве*". Мал. Агнешкі Качаноўскай

## Грамніцы.
## Ялоўка — Мастаўляны — Юшкаў Груд

15 лютага — Свята Стрэчання Гасподняга — Грамніцы. Гэтая назва ўзялася ад грому.

У гэты дзень мы паехалі ў Ялоўку. Там бачылі касцёл, у якім быў ахрышчаны Кастусь Каліноўскі. Служыў тут перад вайной беларускі ксёндз Янка Семашкевіч. Ён пісаў вершы ў дзіцячы часопіс „Пралескі", падпісваўся ён псеўданімам Янка Ялавец.

**Вершык „Дзецям"**
**(з „Пралесак")**

Хоць восень настала
Ї кветачак мала,
Пралескі аднак зацвілі.
Бо гэтыя кветкі,
Каханыя дзеткі,
Ёсць родныя нашай Зямлі.

Настануць марозы...
У горы і слёзах
Яны будуць вас пацяшаць;
Калі няма кветак —
Вас, родныя дзеткі,
Навучаць сваё шанаваць.

Вучыцеся ж пільна
У мове радзімай,
Усягды памятайце аб ёй,
Аб гонях, аб вёсках,
Сасонках бярозках,
Як скарбах Старонкі сваёй.

**Янка Ялавец**

Бачылі мы таксама руіны касцёла святога Антонія, збудаванага на пачатку нашага стагоддзя. Разбурылі яго немцы ў II сусветную вайну.

Пайшлі мы ва Уздзвіжанскую царкву. У час багаслужбы спявалі грамнічную песню „Предивное торжество". Пасля айцец Яўген Хакановіч запрасіў нас да сябе на пачастунак.

З гэтага маляўнічага мястэчка паехалі ўздоўж мяжы з Беларуссю ў Мастаўляны. Там наведалі месца, дзе калісьці быў фальварак Каліноўскіх. Там нарадзіўся дыктатар студзеньскага паўстання Кастусь Каліноўскі. Сёння ад хаты астаўся падмурак і старыя каштаны. У Мастаўлянах ёсць таксама прыгожая драўляная царква.

Вяртаючыся ў Бандары, затрымаліся мы ў Юшкавым Грудзе, каб паглядзець царкву. Ёсць у ёй 70 вакон і таму там вельмі светла. Цікава, што на купале ад сярэдзіны намаляваны зоркі, быццам на небе. Айцец Славамір Тафілюк расказаў пра сваю парафію.

Вярнуўшыся ў Бандары, Дарафей Фёнік, згодна са старажытным абрадам падпальваў кожнаму пасмы валасоў, каб не баяліся грому. Найцяжэй было прысмаліць кароценькія валасы Томка Саевіча. Расказаў таксама пра дахрысціянскае паходжанне гэтага свята і звязаныя з ім абрады. Калі ў хаце была дзяўчына, гаспадар гасіў грамнічную свечку. Адтуль, куды пайшоў дым, меў прыйсці хлопец. З гэтым святам звязаны прымаўкі: „На Грамніцы палавіна зіміцы", „На Грамніцы нап'еццa певень вадзіцы".

**Ірэна Кулік,**
**Міхась Стэпанюк**



"*Закрытая прастора*". Мал. Лукаша Жукоўскага

## Дзённік Ірэны

***Ірэна Кулік** з Тафілаўцаў, вучаніца сёмага класа ПШ у Дубічах-Царкоўных — лаўрэатка конкурсу „Найцікавейшы дзённік". Ва ўзнагароду Ірэна атрымала запрашэнне на наступныя Сустрэчы „Зоркі".*

**12.02.1996 г.**

Я, едучы ў Бандары, вельмі ўцешылася, а таксама і баялася, што нікога не ведаю. Пасля прыезду пазналі мы апекуноў, з якімі будзем працаваць у групах: тэатральнай, мастацкай, публіцыстычнай і літаратурнай. Падабаўся нам вельмі лес і дамы ў снезе. Пасля абеду выбраліся мы на экскурсію па наваколлі. Найбольшае ўражанне выклікала вадасховішча. Вечарам кожны з нас расказаў крыху пра сябе і сваю мясцовасць. Сярод нас ёсць дзеці з Курашава, Новага Корніна, Нарвы, Бельска-Падляшскага, Беластока... Я пазнаёмілася з дзяўчынкамі. У пакоі жыву з Ясяй Сегень з Каменя, Аняй Садоўскай з Макаўкі ды Аняй Кіцаль з Трывежы. Я сабе выбрала тэатральную групу і туды буду хадзіць на зняткі. Пасля вячэры ў нас была дыскатэка, на якой я ўвесь час танцавала. Ад уражанняў я не магу заснуць! Не магу дачакацца заўтрашняга дня...

*(працяг будзе)*



*Мая школа.* Мал. Цаліны Глагоўскай

* * *

Ці ведаеш, памятаеш
Песні Радзімы — Маці-краіны?
Я заўсёды пра іх памятаю.

Не кожны нараджаецца паэтам.
Не кожны становіцца літаратарам.

Я, хоць яшчэ няўдалыя вершы
складаю,
Сваёй Айчыне песні спяваю.

**Аня Садоўская**

## Майму сябру
## пра Сустрэчы „Зоркі"

Ад 12 да 17 лютага быў я ў Бандарах. Хадзіў па розных месцах, пазнаў многа новых сяброў і сяброўак. Мне найбольш падабалася тое, што мы пакінулі ў Ялоўцы... Дарафея Фёніка. Гэта было так:

Калі мы вярталіся з Мастаўлян, убачылі, што сярод нас няма Дарка. Мы пачалі смяяцца, а пасля стала нам сумна. Пачаліся пошукі, але ўсе мы здагадаліся, што пакінулі мы Дарафея ў Ялоўцы. І праўда, сустрэлі „згубу" ў зваротнай дарозе.

Яшчэ было цікава, што персанал усю ноч гаварыў, а раніцай уставаў найпазней! Смешна было, калі Лёнік Тарасэвіч крычаў раніцай „пабудка!", і ўсе ўставалі, толькі ў чацвер, калі яго не было, некаторыя не ўсталі.

Найбольш усіх нас забаўлялі Міхась Дзмітрук і Лёнік Тарасэвіч. Яны паказвалі розныя міны, жартавалі.

Я хачу яшчэ ездзіць на такія сустрэчы.

**Міхась Стэпанюк**

## Польска-беларуская крыжаванка н-р 9

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ↓ | Ł... wieś nad Zalewem SIEMIONÓWKA | | BUDA, SZAŁAS | | KANWA |
| | ZA-WINIĄTKO | ↓ | NORD ↓ | ↓ | DON (rzeka) |
| → | | | | | |
| | NAREW (rzeka) ↳ | | | ← | AR ↓ |
| BEDNARZ, BECZKARZ ↳ | | | | | |
| | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў мы разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 4:**
чарапаха, радавод, гад, хада, мара, рад, лад, пах, пава, ход, вада.

Узнагароды — каляровы мадэлін (modelina) — выйгралі:

1. **Пятрусь Германовіч з Махнатага,**
2. **Паўлінка Корзун з Лядаў,**
3. **Ася Леанюк з Грабаўца,**
4. **Мажэнка Асіпюк з Ласінкі,**
5. **Пятрусь Янкоўскі з Бельска-Падляшскага,**
6. **Паўлінка Куптэль з Гайнаўкі,**
7. **Галінка Галавачык з Тыневіч,**
8. **Эмілька Місяюк з Чыжыкаў.**

Віншуем!

# На 40-годдзе — сорак медалёў

Адным з элементаў святкавання юбілею Беларускага грамадска-культурнага таварыства быў урачысты пленум Галоўнага праўлення, праведзены ў суботу 17 лютага. Не прадбачваліся на ім, як зазначыў старшыня Ян Сычэўскі, ніякія дэбаты. Увесь час пайшоў на віншаванні, прывітальныя адрасы і ўзнагароджванне найбольш заслужаных дзеячаў таварыства.

Пералік дастойных гасцей доўжыўся амаль паўгадзіны. А былі гэта, між іншым: намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч, міністры культуры Польшчы — Здзіслаў Падканскі і Беларусі — Аляксандр Сасноўскі, віцэ-міністр нацыянальнай адукацыі РП Казімеж Дэра і міністр адукацыі і навукі РБ Васіль Стражаў, charge d'affaires беларускага пасольства ў Варшаве Мечыслаў Часноўскі і генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхаіл Слямнёў, ваяводскія і самаўрадавыя ўлады.

Як першы слова ўзяў архіепіскап Сава, які падкрэсліў, што члены таварыства, гэта перад усім вернікі Праваслаўнай царквы. „Хто гэтага не разумее, чыніць зло свайму народу". Яго праасвяшчэнства зазначыў, што сваю ролю БГКТ спаўняла і спаўняе. „Схілаем галовы перад заснавальнікамі арганізацыі. Вечная памяць тым, што адышлі ад нас, а гонар і слава тым, што дачакалі юбілею!"

Віцэ-прэм'ер узнагародзіў гадзіннікам ад прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра і ганаровай граматай Уладзіміра Юзвюка, а Яну Сычэўскаму перадаў медаль Ф. Скарыны, нададзены самім Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Спадар Сычэўскі стаў першай замежнай асобай, адзначанай гэтым медалём прэзідэнтам Лукашэнкам.

Міністр культуры і мастацтва Польшчы сказаў, што яго ведамства, як і цэлы ўрад, заўсёды з зычлівасцю адносіліся да ініцыятываў таварыства. „Штогоду збольшвалі мы датацыю. Думаю, што і сёлетняя будзе большая на 30—40% у параўнанні з мінулагоднняй". Прысвоіў ён званне „Заслужаны дзеяч культуры" Але Дубец, Любе Гаўрылюк, Валянціне Грыка і Лявону Харытанюку (адзначаліся яны на канцэрце, увечары ў зале спартыўнага клуба „Влукняж"). Уручыў ён таксама дыпломы арганізацыі і паасобным яе дзеячам: Тамары Бурачэўскай, Валянціне Ласкевіч, Аляксандру Баршчэўскаму, Сяргею Лукашуку і Яну Сычэўскаму.

Міністр нацыянальнай адукацыі Польшчы ўдастоіў Тамару Русачык і Зінаіду Дэмянюк медалямі Камісіі нацыянальнай адукацыі.

Міністэрства адукацыі і навукі РБ ганаровымі граматамі ўзнагародзіла: Зінаіду Навіцкую, Тамару Русачык, Аляксандра Баршчэўскага, Аляксандра Іванюка, Аляксея Карпюка і Мікалая Нікалаюка, а таварыству падаравала каляровы тэлевізар.

Ганаровыя граматы Міністэрства культуры атрымалі Ганна Бжазоўская, Валянціна Ласкевіч, Валянціна Міцэвіч, Ніна Цыванюк, Мікола Гайдук, Сяргей Лукашук, Кастусь Майсеня, Міхась Хмялеўскі і Віктар Швед.

Беластоцкі ваявода прызнаў Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству калектыўную залатую адзнаку „Заслужаны Беласточчыне" за працу ў галіне культуры і асветы. Індывідуальныя залатыя адзнакі атрымалі Валянціна Ласкевіч, Валянціна Міцэвіч, Сяргей Крышань і Мікалай Нікалаюк, а сярэбраныя — Ніна Абрамюк, Аліна Асташэўская, Ганна Бжазоўская, Тамара Русачык, Валянціна Франкоўская і Мікалай Пракапюк.

Найважнейшую адзнаку — „Сярэбраны крыж заслугі" ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай атрымалі Валянціна Ласкевіч, Тамара Русачык і Мікалай Пракапюк. Уручыў яе ў час канцэрта прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч.

Ад імя ўсіх узнагароджаных дзякавала Тамара Русачык. „Тое, што мы тут усе маглі сабрацца, гэта перш-наперш вялікая заслуга Яна Сычэўскага і Валянціны Ласкевіч. Яны за працаю ў таварыстве света не бачаць, начэй не спяць".

Старшыня Галоўнага праўлення Ян Сычэўскі сказаў, што падрыхтаваныя ўзнагароды і для іншых актывістаў БГКТ. Будуць яны ўручацца на сходах паасобных аддзелаў таварыства. Затым старшыня зачытаў віншавальныя лісты ад міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сянько, старшыні Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай (не быў запрошаны) Яўгена Вапы, Управы горада і гміны Кляшчэлі. Старшыня Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Ян Чыквін даслаў пісьмо, у якім жадаў, каб БГКТ шчасліва жыло доўгія гады ды яшчэ размнажалася.

З прысутных арыгінальныя пажаданні склала бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінска-Патэюк. Працытавала яна Антоні Сланімскага: „У Польшчы ўсё магчымае, нават перамена на лепшае". Чаго і зычыла таварыству, якое вартае грамадскай пашаны і прызнання.

Пленум закончыўся выступленнем ганаровага старшыні БГКТ Аляксандра Баршчэўскага. На пачатку зазначыў ён, што ў так урачысты момант сістэматызаваны даклад быў бы не на месцы. Замест гэтага прафесар Баршчэўскі расказаў шэраг анекдотаў з багатай гісторыі таварыства. Падкрэсліў ён, што БГКТ ніколі не спаўзло на вузкую сцежку нацыяналізму. І прачытаў юбілейны верш.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Ад імя прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі медаль Яну Сычэўскаму ўручыў віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч.*

*Ада Чачуга*

# Імя яшчэ не забыта



Гадоў трыццаць таму пра Янку Крупу можна было прачытаць на старонках „Нівы" даволі часта. Мо нават часцей, чым пра іншых, а асабліва тады, калі ён танцаваў у „Лявоніссе". Часта таксама яго партрэт з шырокай усмешкай раз'ясняў шэрыя калонкі друкаваных літар.

— Нарэшце нехта і са мной пагаварыць, — уцешыўся гэты нестары яшчэ чалавек, але з кіёчкам у руках, калі мы сустрэліся на парозе рэдакцыі.

Было ў яго голасе столькі жалю, тугі па мінулым, па маладосці, якая праляцела так незаўважальна, па тых часах, калі чалавек быў актыўны і моцны, калі яго цанілі і пра яго памяталі, што мне і самой стала сумна.

Не, не зусім меў рацыю гэты былы дзеяч Беларускага таварыства, вядомы танцор і арганізатар культурнага жыцця на Беласточчыне, быццам пра яго ўсе забыліся. У колькіх жа вёсках успамінаюць яго цёплым словам да сёння, расказваюць, як прыязджаў да іх, як навучыў шанаваць родную культуру, як узняў іх да дзеяння і павёў у мастацтва. Людзі на вёсках канкрэтныя. Усё ў іх сумленна запісана ў хроніках, якія вялі і вядуць да сёння калектывы, а калі хто і не вядзе хронікі, дык усё запісалі дакладна ў сваёй памяці.

Вядома, была гэта праца штатнага і культурна-асветнага інструктара ГП БГКТ, дзе Янка Крупа працаваў ад 1960-га да 1981-га года. Але нават ужо тады, калі ў 1981 годзе перайшоў на педагагічную працу ў Супрасльскі дзіцячы дом, а яшчэ пазней — у *Pogotowie opiekuńcze*, дзе праца была выключна цяжкая — працаваць даводзілася з моладдзю з паталагічнага асяроддзя, не парываў сувязей з беларускай песняй і танцам. Яшчэ мо гадоў дзесяць вёў у Беларускім таварыстве грамадскую дзейнасць: пад яго кіраўніцтвам працаваў студэнцкі танцавальны калектыў, ставіў пастаноўкі тэатральны гуртток. Янка Крупа смела адаптаваў п'есы вядомых беларускіх аўтараў да нашых умоў. Дадаваў танцы, песні, нават па-свойму змяняў загалоўкі. Так перарабіў „Прымакоў" Янкі Купалы, а з „Мікітавага лапця" Міхася Чарота зрабіў проста „Лапаць". Такі загаловак здаўся яму больш выразны і акрэслены. (Калісь у „Ніве", кажа Янка Крупа, Мікола Гайдук нават напісаў, што я выкінуў дурніцу, і з благой п'есы выйшла добрая пастаноўка.) А песні падбіраў такія, каб падабаліся маладым і старэйшым людзям. Розныя ж людзі былі ў калектывах, розныя па ўзросту былі і гледачы.

Янка Крупа добра ведаў людзей, якім аддаваў свой мастацкі талент. Нарадзіўся ў сялянскай хаце ў вёсцы Рудуты, што каля Орлі, на Бельшчыне. Там скончыў пачатковую школу, а пасля пайшоў вучыцца ў Бельскі педагагічны ліцэй.

У класе з беларускай мовай навучання, прыгадвае Янка Крупа, нас рыхтавалі да працы ў беларускім асяроддзі. Настаўнік меў там быць прыдатны. Каб мог арганізаваць музычнае жыццё ў вёсцы, паставіць пастаноўку, развучыць з дзецьмі песню ці навучыць іх танцаваць.

З тых гадоў Янка Крупа ўспамінае з асаблівай удзячнасцю сваіх настаўнікаў — Баляслава Мяшальскага, які хаця быў палякам, дык спяваў з вучнямі беларускія песні, дырэктара школы Мікалая Канашынскага, які, кажа Янка, часамі вучыў беларускі клас іграць на скрыпцы. І быў яшчэ настаўнік Фёдар Скок, які выкладаў беларускую мову і наогул быў апекуном беларускай моладзі ў ліцэі. Як толькі пачуў ён, што ў Беластоку пачала выходзіць „Ніва", сказаў вучням сабраць грошы і ўсім нам выпісаў беларускі тыднёвік. Быў 1956 год і мы ўжо былі ў апошнім класе ліцэя. І так мы даведаліся, што ёсць Беларускае таварыства.

У музычным калектыве Янка Крупа быў ужо ў 1954 годзе. Якраз вярнулася ў Бельск Тацяна Гіжэўская, якую вайна закінула на Беларусь. Там яна танцавала ў хоры Рыгора Шырмы. Адразу стварыла танцавальны калектыў пры Бельскім доме культуры, а другі — пры ліцэі. Акампанаваў вучням Пётр Нівінскі. Каго туды бралі? Усе былі аматарамі, ішлі тыя, што любілі танцаваць. У Беластоку, пры ГП БГКТ, Тацяна Гіжэўская таксама вяла танцавальны калектыў.

Пасля заканчэння ў 1957 г. ліцэя Янка Крупа год працаваў у Бельскім доме культуры. А тады — армія. На шчасце, служыў у Беластоку. Калісь прынеслі мне пропуск і сказалі, што маю ісці ў горад, расказвае ён. Я надта здзівіўся. Куды я пайду? Нікога не ведаю. Пайду ў таварыства! Ужо атрымалі яны будынак на Варшаўскай. І не памыліўся! Мяне ўжо там чакалі. Аказваецца, што тадышні старшыня Уладзімір Станкевіч пазваніў маім камандзірам і прасіў, каб звольнілі мяне на рэпетыцыю танцавальнага калектыву. Я ўжо вёў у той час танцавальную групу ў войску, але гэта прапанова мяне захапіла. Станкевіч дабіўся таго, што я атрымаў пастаянны пропуск на выхад у горад два разы ў тыдзень на рэпетыцыі, а апрача таго, на выезды з канцэртамі. Дзякуй ім, што дазвалялі мне вяртацца нават пасля 22-ой гадзіны.

У 1960 годзе (сёння Янку Крупу здаецца, што было гэта на адным з пленумаў ГП БГКТ) нехта падкінуў думку, што варта было б стварыць невялікі мастацкі калектыў, які мог бы выступаць на вёсцы, у такіх умовах, якія там былі: у невялікіх святліцах, школах. Тады такіх „галяў", як сёння, не было!

Старшыня Ул. Станкевіч запрапанаваў Янку Крупу сабраць такую эстрадную групу, і той падабраў людзей. Разам з ім у групе было восем чалавек: танцавальная пара, салісты, музыкант. Пачаліся рэпетыцыі. Янка кіраваў, спяваў, танцаваў.

Восенню гэтага ж года эстрадная група „Лявоніха" дала свой першы канцэрт у будынку таварыства. Ад таго часу яна стала неадлучным элементам беларускага культурнага пейзажу на Беласточчыне.

Ці былі такія вёскі, куды б „Лявоніха" не даехала? Не, такіх вёсак не было! — упэўнена сцвярджае Янка Крупа. У першы год давалі нават па 30—40 канцэртаў у месяц, пасля ездзілі крыху менш. Па сённяшні дзень, аднак, памятаюць людзі гэту каляровую, „моцную" на тадышнія часы групу, якая спявала свойскія песні, бойка танцавала беларускія танцы з „Лявоніхай" на чале.

А колькі было радасці яе ўдзельнікам! Чалавек тады ведаў, што жыў... Пастаянныя паездкі, сустрэчы з новымі людзьмі!..

*Працяг на стар. 9*

# 400-годдзе уніі — юбілей ці гадавіна?

*— У якіх акалічнасцях заключылася царкоўная унія 1596 г. у Бярэсці?*

**АнтонМіранові́ч**: Акалічнасцяў, якія давялі да гэтай падзеі, было некалькі. Адной з іх была сітуацыя самой Праваслаўнай царквы ў канцы XVI ст. Нельга аднак пагадзіцца з поглядамі гісторыкаў каталіцкай і уніяцкай цэркваў, паводле якіх сітуацыя гэтая была настолькі трагічнай, што адзіным збаўленнем для праваслаўных было з'яднанне з Каталіцкай царквой. Гэта няпраўда. Праваслаўная царква ў той час мела і свае станоўчыя адзнакі: развіваліся нацыянальная і царкоўная культуры, мастацтва, архітэктура, фундаваліся шматлікія манастыры і цэрквы. Тое, што сталася ў іерархіі Праваслаўнай царквы — гэта вынік таго, што кафедры праваслаўных епархій займалі людзі, якія надта ж мала мелі супольнага з манаскім жыццём і наогул царкоўным. Адказныя за гэта перад усім польскія каралі. Гэта яны мелі абавязак назначаць на кафедры такіх людзей, якія наглядалі б за маральным і духоўным жыццём усёй Царквы. На практыцы выйшла зусім наадварот. На епіскапскія кафедры назначаліся свецкія асобы — найчасцей за заслугі для дзяржавы і караля, — якія не адпавядалі ні патрэбам, ні нормам Праваслаўнай царквы.

Каталіцкая царква імкнулася падпарадкаваць сабе ўсіх вернікаў праваслаўя не толькі ў межах Рэчы Паспалітай, але і ў маштабе еўрапейскага кантынента. Спробамі такога падпарадкавання былі ліёнская і фларэнтыйская уніі. Заўсёды аднак пытанне гэтае зводзілася да аднаго аспекту — адміністрацыйнага падпарадкавання праваслаўных рымскаму папе. У Ліёне, Фларэнцыі, ці ў Бярэсці не дыскутавалася на дагматычныя тэмы, ставілася там адну ўмову: праваслаўныя маюць прыняць догмы Каталіцкай царквы. І ў такой, можна сказаць, абстаноўцы шантажу людзі мелі вырашыць — прыступіць да з'яднання, ці яго адкінуць. Трэба тут адзначыць, што праваслаўныя таксама выступалі за еднасць Царквы, але інакш яе разумелі. У той час, як католікі ставілі націск на падпарадкаванне ўсіх іншаверных рымскаму папе, праваслаўныя ідэю агульнай Царквы разумелі як Царкву, галавой якой з'яўляецца сам Хрыстос, а рымскі папа — адзін з яе патрыярхаў. Гэтыя два разуменні адзінства Царквы давялі да таго, што ўсе уніі замест з'яднаць вернікаў толькі паглыблялі падзелы паміж імі. Акалічнасцю, якая якраз у Рэчы Паспалітай падрыхтавала для уніі грунт, было паднясенне маскоўскага мітрапаліта ў ранг патрыярха ў 1589 г. Палякі, не хочучы дапусціць партыярха да ўплыву на рэлігійную палітыку ў Вялікім княстве Літоўскім, а таксама, як ім думалася, да ўмешвання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, імкнуліся як мага хутчэй заключыць царкоўную унію. Паслядоўнасці гэтага акта былі якраз адваротныя — праваслаўныя, як аказалася, яшчэ больш увагі звярталі на Маскву і там шукалі сабе падтрымкі.

*— Як з тэхнічнага боку прайшоў сабор у Бярэсці ды хто ў ім прыняў удзел?*

А. М.: Грунт для Берасцейскага сабора езуіты рыхтавалі ўжо даўно. Ідэя контррэфармацыі была ў Рэчы Паспалітай накіравана не столькі супраць пратэстантаў, колькі менавіта супраць праваслаўных. Кідаючы заклік аб адзінстве Царквы, езуіты спрабавалі выкарыстаць праваслаўную эліту і частка епіскапаў згадзіліся на такі варыянт: езуіты тлумачылі, што епіскапы маюць прызнаць старшынства рымскага папы замест канстанцінопальскага патрыярха — усё іншае, уключна з догмамі, мела застацца як і раней. Гэта была няпраўда, бо на Берасцейскім саборы было імі накінута не толькі старшынства папы, але і ўсе догмы Каталіцкай царквы. Такім чынам, епіскапы, якія прыступілі да уніі, не стварылі ніякай новай царквы, а сталіся, звычайна, часткай Каталіцкай царквы. Пакуль аднак дайшло да Берасцейскага сабора, выявілася, што шмат епіскапаў было ўмешаных у палітычныя, а нават і крымінальныя аферы. Прыкладова, Кірыл Тарлецкі — адзін з галоўных завадатараў уніі, — быў засуджаны на выгнанне. Унія для яго і яму падобных сталася спосабам на захаванне пазіцыі. Епіскапы гэтыя 17 кастрычніка 1596 г. і падпісалі унію на саборы ў Бярэсці. У той жа час канстанцінопальскі патрыяршы экзарх Нікіфар і іерусалімскі патрыяршы экзарх Кірыл прыехалі ў Бярэсце і з двума епіскапамі — львоўскім і пярэмышльскім — не прыступілі да уніі, склікаючы праваслаўны сабор, які ўжо быў кананічны. Паводле канону Праваслаўнай царквы саборам лічыцца тое зборышча, у якім удзельнічаюць прадстаўнікі не толькі іерархіі, але таксама прадстаўнікі свецкага і манаскага духавенства, прадстаўнікі брацтваў і свецкія людзі — гэта абазначае паўнату Царквы. Ва уніяцкім саборы, што паралельна праходзіў у Бярэсці, не бралі ўдзелу свецкія прадстаўнікі — у ім удзельнічалі толькі епіскапы, невялікая частка духавенства і каталіцкія епіскапы. Можна сказаць, што сабор гэты, паводле канона Праваслаўнай царквы, быў неправамоцны. Таму менавіта ўсе палітыкі і палемісты Праваслаўнай царквы пасля яго заканчэння сцвердзілі яго няважнасць.

Берасцейскі уніяцкі сабор аднак адбыўся. Год раней, у 1595 г., уладзімірскі і холмскі епіскапы, маю тут на думцы Кірыла Тарлецкага і Іпація Пацея, з'ездзілі ў Рым і там перад папам Клімента́м VIII прынялі каталіцкае веравызнанне ды адкінулі ўсе догмы Праваслаўнай царквы, захоўваючы толькі ўсходнюю абраднасць. Гэта было нязгоднае з тым, што людзям аб'явіў год пазней Берасцейскі сабор — гаварылася там, быццам уніяцкая царква захоўвае ўсе догмы Усходняй царквы. Гэта ізноў няпраўда, бо ў хуткім часе наступіла латынізацыя уніяцкай царквы — адкідалася з яе ўсё, што было ў ёй усходняе. Можна ў такім выпадку сказаць, што Берасцейскі сабор падзяліў Усходнюю царкву: большая частка духавенства і вернікаў, двух епіскапаў, а таксама канстанцінопальскі і іерусалімскі патрыяршыя экзархі адкінулі гэтую унію. За уніяй выказаліся толькі епіскапы, без духавенства і вернікаў.

*— Што мела унія даць епіскапам, якія да яе прыступілі?*

А.М.: Толькі частка з гэтых епіскапаў спадзявалася на нейкую матэрыяльную карысць. Усе яны думалі — так прынамсі абяцалі езуіты — што атрымаюць месцы ў сенаце Рэчы Паспалітай, а гэта абазначала б павышэнне рангу епіскапаў і аўтарытэту Царквы. Так аднак ніколі не сталася, бо не пагадзілася на гэта ні Каталіцкая царква, ні каталіцкае магнацтва. Частка уніяцкіх епіскапаў скарыстала ў тым сэнсе, што атрымала багатыя манастыры, а таксама і звальненні ад караў, якія ім былі засуджаны. Думаю, што былі таксама і іншыя спадзяванні уніяцкіх епіскапаў, але практыка паказала, што закончыліся яны або нічым, або ўсяго матэрыяльнымі карысцямі. Несумненна епіскапы, якія прыступілі да уніі, пазбавіліся ад аднаго канкурэнта ў кіраванні жыццём Царквы — праваслаўных брацтваў. Калі на беларускія землі прыехаў канстанцінопальскі патрыярх Іерэмія II у 1589 г., ён падняў два брацтвы — віленскае і львоўскае — да звання стаўрапігіі. А значыць, маглі гэтыя брацтвы кіраваць Царквою нароўні з епіскапамі.

*— Езуіты ў сваім імкненні пашырыць уплыў Каталіцкай царквы моцна скарыстоўваюць нацыянальны элемент. Была унія нацыянальнай рэлігіяй беларусаў ці не?*

А.М.: Гэта важнае пытанне, бо якраз сёння шмат людзей, якія займаюцца гэтай праблемай, уважае, што унія была нацыянальнай рэлігіяй беларусаў, украінцаў, румынаў. Гэта не так. Уніяцкая царква часткова сапраўды вязалася з нацыянальнай культурай людзей, што асабліва выявілася ў вясковых прыходах. Але людзі, якія ставяць такі тэзіс, забываюць, што такі ж працэс праходзіў і ў Праваслаўнай царкве. Ва уніяцкай царкве, аднак, у канцы XVII ст. хутка праходзіць працэс латынізацыі, што выяўляецца ў празмерным уплыве польскай мовы на літургію, жыццё Царквы, з'яўляюцца круцыфіксы і разьба, якая для Усходняй царквы чужая. З другога ж боку, гэтая разьба ды іншыя элементы, якія непрыемлівыя ў праваслаўнай традыцыі, з'яўляюцца часткай нацыянальнай культуры беларусаў ці украінцаў. Трэба сказаць, што некаторыя элементы культуры унія пашырыла, а нават дасягнулі яны свайго росквіту. Аднак сцвярджэнне, што унія вызначала рэлігійную тоеснасць і культуру абазначала б, што адкідаем усё багацце і спадчыну праваслаўнай культуры, якая выявіла сябе і ў час змагання з уніяй — узнікае багатая палемічная літаратура, друкарні, ажыўляецца царкоўнае і свецкае кнігавыданне. Я праціўнік, каб ставіць знак раўнаважнасці паміж уніяй і нацыянальнай культурай у XVII-XVIII ст.ст., але не пагаджаюся таксама з поглядамі, быццам унія не мела нічога станоўчага ў галіне культуры, мастацтва, архітэктуры. Згаданая ўжо разьба з'явілася ў Беларусі ў шырэйшым маштабе якраз з уніяй, а пазней і з каталіцтвам.

*— Як, па-вашаму, можна было б падвесці унію, беручы пад увагу як мага больш яе аспектаў?*

А.М.: Безумоўна мела яна больш адмоўных прыкметаў. Да з'яднання Цэркваў яна не давяла, выклікала рэлігійную барацьбу, варожасць, што і стала прычынай упадку Рэчы Паспалітай. Тыя станоўчыя рысы, якіх мы можам дагледжвацца ў культуры і мастацтве не раўнаважаць аднак учыненай уніяй шкоды. Цяпер, калі адзначаем 400-годдзе царкоўнай уніі і глядзім на яе з перспектывы сённяшняга дня, бачым, што давяла яна да большага падзелу і зла, чым да сапраўднай карысці. Невыпадкова сучасныя праваслаўныя і больш некаторыя каталіцкія тэолагі адкідаюць такую форму з'яднання Цэркваў. Трэба вельмі крытычна аднесціся да ўсіх тых канферэнцый, сустрэчаў і пасланняў, якія заклікаюць да ўрачыстага адзначэння гадавіны уніі. Невыпадкова ўсе праваслаўныя іерархі на востраве Радос выказаліся за тое, каб рымскі папа не святкаваў юбілею уніі, бо юбілей гэты вельмі крыўдны для праваслаўных, а унія прынесла ім больш няшчасця і падзелу, чымсьці згоды.

*— Якую асаблівасць скрывае ў сабе унія, што з'яўляецца яна такім жывым пытаннем 400 гадоў пасля яе заключэння?*

А.М.: Гэта вельмі прыкры гістарычны досвед — не толькі ў гісторыі Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў, але і ў гісторыі многіх народаў. Пытанне уніі з'яўляецца сёння пытаннем палітыкі Ватыкана ў галіне евангелізацыі народаў Усходняй Еўропы. Я, як праваслаўны вернік, ва ўсякіх праявах г.зв. празелітызму (г.зн. спробы навяртання на хрысціянства хрысціян) бачу форму працягу Берасцейскай уніі — метад, магчыма, інакш завецца, але застаўся той самы. Берасцейскі досвед мае і свае актуальныя паслядоўнасці ў адносінах паміж Цэрквамі. Пытанне Супраслі таму так цяжка вырашаецца, што разуменне экуменічнасці праваслаўнымі і католікамі значна разыходзіцца. Частка каталіцкіх епіскапаў надалей уважае, што найлепш было б, каб праваслаўныя з'ядналіся з Каталіцкай царквой і падпарадкаваліся юрысдыкцыі рымскага папы. Праваслаўныя такое разуменне экуменічнасці адкідаюць.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў Аляксандр Максімюк**

# Імя яшчэ не забыта

Працяг са стар. 8

Праца культурна-асветнага інструктара Беларускага таварыства не абмяжоўвалася аднымі танцамі. У аддзелах — Беластоцкім, Сакольскім, Гайнаўскім, Сямятыцкім — адзін за другім узнікалі тэатральныя калектывы. Асабліва актыўныя былі вёскі Піражкі, Востраў, Бабікі, Вярхлес, Сухінічы — на Сакольшчыне; Пянькі, Баршчэва, Юшкаў Груд, Новая Воля, Бандары, Рыбакі, ну, і вядома, Гарадок — на Беласточчыне; Ласінка, Лешукі, Скупава, Дабрывада — на Гайнаўшчыне; Мілейчычы, Вілінава, Рагачы — у Сямятыцкім павеце ды і многія іншыя, не названыя тут вёскі. Што датычыць Бельшчыны, дык там людзі адразу цягнуліся больш да песні. Толькі ў Паўлах і Рыбалах былі тады тэатральныя калектывы.

Першыя конкурсы ў таварыстве — гэта былі тэатральныя конкурсы. Працу драматычных гурткоў не было так лёгка арганізаваць, як можна было б зрабіць гэта сёння. Не хапала рэпертуару, даводзілася прыдумваць нешта самім, дапамогі з Беларусі тады не было.

А пасля пайшлі песенныя конкурсы. Я пяшком схадзіў усю Беласточчыну, уздыхае Янка Крупа, арганізуючы людзей у калектывы беларускай песні, падрыхтоўваючы іх да выступленняў, конкурсаў. Адначасова ж вёў танцавальныя калектывы ў Беластоку і Белавежы. Хадзіў зімою пяшком цэлымі кіламетрамі ад цягнікоў ці „пэкаэсаў". Адмарозіў нагу — і вось такія вынікі майго „хаджэння ў народ".

Ад 1991 года я ўжо, кажа Янка Крупа, не працую. На пенсію пайшоў як педагог, я ж яшчэ завочна скончыў Педагагічную танцавальную студыю і Аддзяленне педагогікі і псіхалогіі ў Філіі Варшаўскага універсітэта. Праца з дзецьмі мне таксама вельмі падабалася, зрэшты, была ў той час значна лепш платная, а мне ж трэба было гадаваць і сваіх дзяцей. Неяк мяне ўжо ў таварыства ніхто не запрашаў. Крыху прыкра, што нават ніколі не запрасілі на ніякі конкурс. Але, відаць, такое жыццё.

Ну, а людзі, кажаш, табе гаварылі... Людзі сапраўды памятаюць. Хаця цяжка хадзіць з кійчкам і далёка сёння не зойдзеш, але і цяпер, калі сустрэну старых знаёмых, то пытаюцца, як зрабіць гэта, а як зрабіць тое. А як будзе лепш выступіць, якія песні заспяваць? І я не магу адмовіць ім, бо ж гэта я іх калісь заахвочваў і рыхтаваў. Хаця горка, але прыемна...

***

І такім чынам прыходзім да вываду, што імя Янкі Крупы яшчэ не цалкам забыта.

**Ада Чачуга**
**Фота з архіва**

## Позірк у мінулае

**3 сакавіка**
1875 г. — прапрэм'ера оперы Бізэ „Кармен" у Парыжы.
1903 г. — амерыканаскі Кангрэс забараніў уезд у ЗША некаторым групам асоб, м.інш. злачынцам, псіхічна хворым і прастытуткам.
1930 г. — нар. Іон Іліеску, румынскі палітык.
1935 г. — нар. Жэлю Жэлеў, балгарскі пісьменнік і палітык.
1992 г. — старт амерыканскага зонда „Піянер-10", які ўпершыню наблізіўся да Юпітэра.
**4 сакавіка**
1193 г. — памёр Салах-ад-Дзін, егіпецка-сірыйскі султан.
1394 г. — нар. Генрых Мораплавец, партугальскі марак і палітык.
1933 г. — амерыканскі прэзідэнт Рузвельт аб'явіў „Новы парадак", скіраваны ў напрамку інтэрвенцыйнай сацыяльнай дзяржавы.
1952 г. — адкрыццё радыёстанцыі „Голас Амерыкі".
1956 г. — выхад першага нумара „Нівы".
1984 г. — у Версалі дэманстравала 800 тыс. прыхільнікаў прыватных школ супраць плану манапалізацыі адукацыі дзяржавай.
**5 сакавіка**
1569 г. — Жыгімонт Аўгуст перадае Падляшша са складу Вялікага княства Літоўскага ў склад Польшчы.
1896 г. — нар. пісьменнік Кандрат Крапіва.
1922 г. — прапрэм'ера фільма „Насферату", першага фільма жаху пра вампіраў.
1942 г. — нар. Феліпэ Гансалес, іспанскі палітык.
1946 г. — Уінстан Чэрчыль упершыню прымяніў акрэсленне „жалезны занавес".
1953 г. — памёр Іосіф Сталін, савецкі палітык.
**6 сакавіка**
1475 г. — нар. Мікэланджэла, італьянскі мастак.
1987 г. — у Антверпене патануў паром „Герольд вольнага прадпрымальніцтва", пацягнуўшы за сабою 188 смяротных ахвяр.
**7 сакавіка**
1274 г. — памёр Фама Аквінскі, італьянскі тэолаг.
**8 сакавіка**
1921 г. — на X з'ездзе ВКП(б) Ленін аб'явіў „Новую эканамічную палітыку".
1945 г. — у Югаславіі паўстаў першы пасляваенны ўрад не чале з Ёсіпам Цітам.
1974 г. — у Парыжы адкрыты аэрапорт *Шарль дэ Голь.*
**9 сакавіка**
1814 г. — нар. Тарас Шаўчэнка, украінскі паэт (памёр 10 сакавіка 1861 г.).
1851 г. — памёр Ханс Эрстэд, датскі фізік, адкрывальнік электрамагнетызму.
1907 г. — нар. Мірчэа Эліядэ, румынскі даследчык рэлігіі.
1918 г. — Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэса Беларусі выдаў Устаўную грамату, якая абвяшчала паўстанне Беларускай Народнай Рэспублікі ў складзе Расеі.
1934 г. — нар. Юры Гагарын, першы касманаўт.
1945 г. — бамбардзіроўка Токіо амерыканскай авіяцыяй, у выніку чаго загінула 85 000 чалавек і разбурана чацвёртая частка будынкаў.

**(Ш)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Што такое, калі сніцца пажар? Бо вось у сне я ўбачыла дом у агні. Не мой, здаецца, гэта быў дом, але гледзячы на пажар, я вельмі хвалявалася.

У другім сне я згубіла ручны гадзіннік. Прыйшоўшы ў хату, хацела глянуць, якая ўжо гадзіна, а тут — гадзінніка няма. Я выйшла на панадворак, думала, мо дзе там ляжыць, але, на жаль, гадзінніка не ўбачыла. Прачнуўшыся, я вельмі ўцешылася, што гэта толькі сон, а гадзіннік ляжыць на сваім месцы.

**Ганна**

Ганна! Што датычыць першага сну, дык пажар можа прадвяшчаць табе нейкую хваробу ад прастуды.

Наконт другога сну, дык можна талкаваць яго па-рознаму. Вядома нагогул, што калі сніцца нейкая згуба, дык можна штосьці знайсці. І гэтым было б мне лепш пацешыць цябе. Але што ты тут зробіш, калі гадзіннік гэта такая бестыя, што адказвае за добраўпарадкаваны, роўны ход жыцця. Калі сніцца гадзіннік, які добра ходзіць, спраўны, дык і справы твае, здароўе — усё будзе ў парадку. Сапсаваны гадзіннік гаворыць пра нейкія няўдачы, разбітае жыццё, смутак.

А ты ж гадзіннік згубіла, і ў тваім жыцці можа забракнуць яго мернага ходу, адным словам, нешта парушыцца. А мо гэта будзе ўсяго нейкая лёгкая хвароба ад прастуды...

**Астрон**

**Пошта Астрона** Што абазначае, калі сняцца ваўкі?

**Геня**

Абазначае гэта, што ёсць у цябе лютыя ворагі, ад якіх нельга чакаць дабра. Будуць непрыемнасці ў выніку іх здрады і ашуканства. Разглянься навокал сябе і зрабіператасоўку ў сябрах. Сцеражыся ад сяброў, а з ворагамі дасі сабе рады.

**А.**

## ВІРАВАНКА




1. паўднёвае хвойнае дрэва, 2. шаўковая тканіна, 3. амярцвенне тканкі, выкліканае спыненнем прытоку крыві, 4. насякомае, якое чародамі нішчыць пасевы, 5. жаночая доўгая вопратка без рукавоў, 6. мужчынскае імя, 7. індывідуум, 8. з яго вырабляюць пражу, 9. напр. Марс, 10. від цяжкага пакарання, 11. багацей, 12. малое птушынае пяро.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на святочны касяк з 2 н-ра:**
Направа: сатана, Яраслаў, літоўцы, страва, Элам, Нікадзім, Равека, кананада, княгіня, Віфлеем, іней, аўт, Тора.

Налева: святло, трактат, наліўка, Суна, Эўрыка, ракако, Асвенцім, вадзянік, канклаў, Вініпег, дзед, аят, Тарс.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## Іконы для музея

102 іконы, якія два месяцы таму былі прывезены са Шчэціна ў ольштынскі замак, вымагаюць грунтоўнай рэстаўрацыі. Тры іконы папалі ў прыватнае рэстаўрацыйнае атэльє ў Торуні, некалькі трапіла ў рукі студэнтаў варшаўскай Акадэміі мастацтваў, якія вернуць ім першапачатковы выгляд. Частку ікон заняліся ольштынскія рэстаўратары. Невядома, калі гэтыя іконы будуць паказаны гледачам: залежыць гэта ад магчымасцей музейнай касы. Кошт аднаўлення аднае іконы вагаецца ад некалькіх соцень новых злотаў да некалькіх тысяч. Дакладныя агледзіны гэтых абразоў пазволяць на выяўленне, ці пад бачнай выявай няма скрытых другіх слаёў фарбы. Некаторыя іконы паходзяць з XVII стагоддзя, а і на іконах, датаваных на XIX стагоддзе, на месцы, дзе адпаў кавалак фарбы, відаць некалі другую выяву іконы. Музей Вармії і Мазураў намагаецца прыдбаць у Ольштын іконы, затрыманыя таможнікамі. Пра гэта вырашае Генеральны рэстаўратар помнікаў.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ПАРНАСІК

### Залаты юбілей

Ужо сорак гадоў
Як існуе наша арганізацыя,
Прынясла многа смачных пладоў
Для беларускай нацыі.
Называецца: Беларускае,
грамадскае,
Культурнае таварыства; і праўленне
Любімае і брацкае!
Дало нам радасць і здзіўленне
Што і беларусы прачнуліся
Ад спячкі і здранцвення,
Мацнейшымі пачуліся.
Знайшлі лякарства ад балячкі:
Згуртаванне — першы крок
Наперад і далей!
Сядзіба — Беласток,
Ісці мацней, дружней!
Хто ў першым радзе дзейнічаў?
Героі, змагары і дзеячы!
Народ ім руку падаваў
У слушнай рацыі, ад сэрца веручы.
Былі арганізаваны гурткі
БГКТ як сімвал беларушчыны,
Закінутыя ў розныя куткі
У гарадах, вёсках і за пушчай.
Была развернута родная мова
У школах і ліцэях,
Каб усюды наша слова
Гучала і праяўлялася ў падзеях.
Была створана родная „Ніва",
Беларуская газета!
ГП БГКТ бралася да работы жыва —
Гэта цудоўная гісторыя, залатая
манета.
Была створана філалогія ў Варшаве,
Беларуская! Кіраўнік — Барскі Алесь
Цешыцца заслужанай славай:
Хвала яму як і чэсць!
Выраслі таленты і „Белавежа"
Як Чыквін, Барскі, Швед...
Гэта нябесна-духоўная вежа,
Рэчаіснасць, і не балет.
Далей: Гайдук, Целушэцкі Ян,
Міра Лукша, Надзея Артымовіч...
— Гэта ява, ніяк не абман, —
А таксама Сакрат Яновіч.
Гэта наш авангард!
І далёка няпоўны;
Азалачэння ён варт
Верны, і дзейны, і слоўны.
БГКТ — арганізатар і будаўнік музея
У Гайнаўцы, ля пушчы.
Гэта, лічыць, галоўная падзея
Сярод беларуска-палескай глушы.
Кастусь Майсеня — кіраўнік работ,
Палымяны беларус, змагар;
І падобны яму род
Даюць урок нам усім і дар.
Помню ластаўкі, што прыляцелі
І правілі арганізацыяй,
Быць у гняздзе захацелі
Пасля „духоўных аперацый",
Як Лідзія Бялецкая,
Зенюк, Самоцік, Барскі...
Душа ў іх родная, палеская
І вецер цёплы і змагарскі.
Сёння сп. Сычэўскі старшынёю —
Маю да яго і сяброў павагу:
Нашы справы ён не абходзіць
стараною
А бярэ ўсё точна пад развагу.
З нагоды юбілею саракагоддзя
І гістарычнай даты
Жадаю ўсім і яму стагоддзя,
Беларусы ўсе пашаны варты!
Жадаю здароўя ўсім
І поспехаў у працы,
Энергіі ўсім жывым.
Чэсць і гонар нашай нацыі!

**Мікалай Панфілюк**

## Давайце жыць згодна
або
## Дзеячы ўсіх арганізацый, яднайцеся!

Дарагая наша „Ніва",
Трэба вам усіх яднаць!
Маладыя ці старыя —
Усіх роўна шанаваць.
Падзелены на гурточкі,
Твораць толькі балаган.
„Культура — мая дзялянка,
Я табе яе не дам!" —
Так крычалі ў Таварыстве
На хаўруснікаў БДА ці БАС.
А работы ўсім жа хопіць,
Каб халера на ўсіх вас!
Мэта то ў вас адна,
Добра гэта знаю.
Паяднацца ды жыць згодна
Я ўсіх заклікаю.
„Зладжана нам трэба жыць,
У еднасці — сіла" —
Так казала мне калісь
Цётачка Мальвіна.
Трэба вам усім сабрацца,
Спадары старшыні,
І дзейнасць так павесці,
Каб мы дружна жылі.
Дзе падзеліcь дзеячы,
Што цяжка працавалі
І нашу культуру родну
Ад падстаў стваралі.
Міша, Ваня ці Рыгор,
Як вас усіх зваці,
Адгукніцеся ў „Ніве"
Праўду нам сказаці.

**Мікалай Лук'янюк**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 5 marca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 st. zł), a kwartalnie — 18,85 złotych (188 500 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Учора і сёння

Фотадакументы, якія адлюстроўваюць стан маральна-палітычнага падзення нашай рэдакцыі і ігнаравання ролі вядучай сілы беларускага народа Беласточчыны пасля 1992 года.





*Раней журналісты працавалі на хвалу чалавецтва не толькі пяром, але і ломам...*



*... а карэспандэнты прамаўлялі з высокіх трыбунаў.*



*А цяпер журналісты найлепш сябе адчуваюць у забягалаўках VI катэгорыі...*



*... а з'езды карэспандэнтаў набылі распусны характар.*



*Выявіліся таксама нездаровыя зацікаўленні парнаграфіяй і ...*



*... непарадкі ў канцылярыі.*



*Рэдактар правеў люстрацыю. Тайныя агенты развіталіся з працай.*



*Куды мяне мае ўласныя ногі прывялі?!*



*Куды я папаў!*

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Пішу табе і плачу. Навошта мне было гэта ўсё, я ж была такая шчаслівая і спакойная! Выбрала сабе цікавую вышэйшую навучальную ўстанову, вельмі хацелася мне стаць мастачкай. Была ўжо на II курсе, калі пазнаёмілася з ім. Быў для мяне цэлым светам. Мне падабалася, што ён такі здольны, што ўсе выкладчыкі яго хваляць і прадказваюць яму вялікую будучыню.

Не скажу, што ў мяне да яго хлопцаў не было. Можна сказаць, што чакалі яны мяне на кожным рагу вуліцы. Магла браць каго хацела, і вадзіў бы мяне ў кіно, на забавы, у каварні. А мне спадабаўся гэты скромны з выгляду хлапец з небагатай вясковай хаты, бацькі якога былі вельмі простымі, але добрымі людзьмі.

Мы пачалі сустракацца. Ён паказваў мне свае працы, якія ўжо паспеў намаляваць, а для мяне гэта была найбольшая радасць. Я таксама разумела, што гэта вельмі таленавіты хлопец, і ён падабаўся мне ўсё больш. На занятках мы фактычна з ім не разлучаліся. Па калідоры хадзілі, узяўшыся за рукі. Усе ўжо лічылі нас канкрэтнай парай.

Я думала, што ён такі ж скромны хлапец, на якога выглядае. І падыходзіла да яго з поўным даверам. Верыла ў тое, што ён мяне ніколі не пакрыўдзіць. Крыху здзівілася я, калі ён пачаў гаварыць пра палавыя зносіны. Я баялася, і, калі аднойчы ён паставіў пытанне рубам, дык і я яму адказала, што непакоіць мяне мая будучыня ў выпадку, калі б здарылася цяжарнасць. Ён засмяяўся: „Тады мы пажэнімся!"

Я згадзілася на наша сужыццё як мужа і жонкі, хаця мне зусім з гэтым было нияспешна. І што ты думаеш, Сэрцайка? Зацяжарыла ад першага разу! Калі сказала яму пра гэта праз пару месяцаў, ён даслоўна аслупянеў. „Гэта немагчыма!" — так зараагаваў адразу. Я паставіла на яго вочы: „Як гэта так?! Ты ж ведаеш, што ты быў першым хлопцам, якому я аддалася!" Але мой найдаражэйшы з нерваў пачаў гаварыць нейкую бязглуздзіцу. Я не разумела, што дзеецца. Калі б ён не запэўніваў мяне, што ў выпадку „чагосьці", як ён сказаў, мы пажэнімся, я ж бы ніколі не згадзілася на тое!

Усе сябры і сяброўкі адразу заўважылі, што нешта ў нас не так. Мы ўвесь час сварыліся, радзей хадзілі разам. Мая мама вельмі знервавалася, калі я ёй расказала, у якой сітуацыі я апынулася. Шлюб — і канец! — вырашыла яна. Паехала да яго бацькоў на вёску, пераканала іх, што дзіця не можа быць без бацькі. Ну, і згулялі вяселле.

Цяпер ужо на занятках мы нават не сядзелі разам. Калі сяброўкі пыталіся: „Што гэта вы не сядзіце разам?", дык я адказвала жартам: „Мы пажаніліся!" Так я адказвала, а толькі адзін Бог ведаў, што дзеялася ў маім сэрцы. Мой ужо муж, як быў гарачы, дык стаў зусім халодны ў адносінах да мяне. Я б сказала, ніякі, бяздушны, абыякавы. А я чакала дзіцяці.

Хутка пасля нараджэння дзіцяці мы развяліся. Мо было менш сораму, якога так баялася мая мама, але горычы не бракавала. Не скажу, выхоўваць дзіця дапамагалі мне мама і бабуля. З гэтым праблемы не было. Аднак жа я не магла сабе ўцяміць, як каханы чалавек можа ўчыніць такое. А вазьмі ж яшчэ пад увагу, што быў гэта надта інтэлігентны чалавек, якога ўсе і ўсюды высока цанілі. Не ведалі толькі, які ён быў у адносінах да мяне. Я нават пачула плётку, што гэта я кінула яго, бо ўжо сама не ведаю, каго мне трэба. А я ж яго кахала шчырым, гарачым пачуццём дваццацігадовай дзяўчыны.

Сэрцайка, ці варта верыць мужчынам, ды і наогул, ці варта камусьці верыць...

**Алена**

Алена! Варта верыць, заўсёды аднак пакідаючы невялічкі маргінэс. У жыцці ўсяляк бывае і трэба заўсёды разлічваць на горшае. Сляпая вера можа прывесці да трагедыі. Але, калі ты маладая і прыгожая і адбою ад хлопцаў няма, дык усё яшчэ перад табою, хаця і маеш дзіцятка!

**Сэрцайка**